
«БЕЖАНСТВА» Даніеля Грамацкага → 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714


Уключы разнароднасць → 4

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 45 (3104) Год LX Беласток, 8 лістапада 2015 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Віншуем АЛЕСЯ БАРСКАГА з 85-годдзем!

**2 лістапада Алесю Барскаму споўнілася 85 гадоў. Ён вядомы найперш як паэт, навуковец. А між тым, ягоная проза, у якой паўстае незамутнёная беларуская Беласточчына, надзвычай цікавая. Прапаную чытачам „Ніві" мой роздум пра некаторыя старонкі ягонай кнігі прозы „З пабачанага і перажытага" якая выйшла друкам у 1992 г. у Мінску.**

Гэта яшчэ адно цікавае слова творцы пра свет, далёкі і блізкі. Ставім на мэце прасачыць, як выяўляецца асоба аўтара, у якой ступені лучнасці знаходзіцца яна з героем, што з перажытага выхоплівае памяць, якім чынам гэта інтэрпрэтуецца. Кніга ўяўляе сабою асобныя нарысы, што, змешчаны пад адной вокладкай, успрымаюцца як адзіны мастацкі арганізм, па сутнасці ўяўляюць сабою цэласны твор, мастацка-дакументальную аповесць. Гэтая цэласнасць сфармавана і кампазіцыйна, што падкрэслівaецца прадмовай „Ад аўтара", дзе выкладзена матывацыя стварэння кнігі. Аўтар тут паўстае асобай з багатым жыццёвым досведам, якому ёсць чым падзяліцца з чытачом: „Мабыць, у кожнага чалавека на пэўным этапе яго жыцця паяўляецца жаданне расказаць аб пабачаным і перажытым. Паявілася яно і ў мяне. Тым болей, што жыццё маё прыпала на вельмі цікавы гістарычны перыяд... Пяць палітычна-дзяржаўных фармацый уварвалася ў мой побыт".

Гістарычная дадзенасць, што ўжо незваротна зафіксавана як рэальнасць, спрыяе фармаванню адметнае формы раздвоенасці душы, што ўвогуле заўсёды было характэрна беларусам рэфлексійнага тыпу. Вобраз, створаны Алесем Барскім, з тае ж кагорты. У кожнага гэты складаны працэс адбываецца з розных прычын. У героя кнігі яна праяўляецца ў наступным: „Як беларус, атаясамліваюся з беларускім народам, а як грамадзянін — атаясамліваюся з Польскай дзяржавай". Але гэтая раздвоенасць не вядзе да трагічнага надрыву, разладу, як тое было ў герояў нашаніўскай ці міжваеннай пары, бо ў душы нарадзілася ўсведамленне далучанасці да яшчэ большае тоеснасці: „Усё болей прыхільным позіркам паглядаю на ідэю прыналежнасці да еўрапейскай ці нават сусветнай грамадскасці". Гэта, падкрэслім, не мае ніякіх адносін да касмапалітызму, што выразна выяўляецца ў другой частцы прадмовы, калі на першы план выходзіць чалавек-патрыёт, чыё жыццё назаўсёды знітавана з роднай зямлёю. **Першы і ў дадзеным кантэксце для аўтара першасны факт — нараджэнне ў беларускай вёсцы Бандары — паўстае праз самыя знакавыя моманты жыццёвай біяграфіі, што фармуюць біяграфію мастацкую: „Гэта ж тая зямля, на якой я нарадзіўся, над якой першы раз пабачыў сонца, на якой зрабіў першы крок, сказаў першае слова і напісаў першы верш". Бандары — Малая Айчына. Усё з вялікай літары насуперак агульнапрынятаму правапісу. Тут герой ператвараецца ў паэта, што пяе песню хвалы роднаму, чаму ніколі не здрадзіць.** Пяе хвалу, але не хваласпеў, бо дзякуючы багатаму досведу разумее заганы люду гэтага тутэйшага і здольны зразумець, што і жыццё часам выглядае з чалавечага погляду бязглуздзіцай: „З гэтай светлай краіны рушыў у шырокі свет. І не магу да яе не вяртацца, каб зноў прайсці па матчыных слядах, каб падняць грудку зямлі са свежаўзаранай глебы, каб кінуць зерне ў раллю, каб скасіць першы даспелы колас, каб захапіцца і ўсумніцца. Усумніцца ў сабе, у маім народзе, у сэнсе жыцця, якіх і так не перастану і любіць, і кахаць. Прагнуў бы не дзесьці далёка, а ў Малой Айчыне сказаць апошняе сваё слова, апошні раз абняцца з ветрам і апошні раз пацалавацца з сонцам".


Фота Міры Лукшы

* * *

Зразумела, што знітоўвае асобныя часткі кнігі вобраз героя, які знаходзіцца ў непадзельнай сувязі з аўтарам. Аповед вядзецца ад імя першай асобы. Ужо ў назве падкрэслены суб'ектывізм: пабачанае і перажытае самім аўтарам. Але гэта не азначае, што пісьменнік не парушае ўстаноўку адлюстроўваць толькі ўласны досвед. Вектар ягоных зацікаўленасцей перарастае ў цэлы веер актуальных праблем. Поруч з аўтабіяграфічнымі аповедамі, роздумамі пра перажытае непасрэдна паўстаюць пабачаныя пісьменнікам у розныя часы карціны, эпізоды, што назаўсёды засталіся ў памяці, якім настаў час падзяліцца з чытачом. Гэтыя творы пісаліся для „Нівы" ў самім дзесятыя гады, а выйшлі асобнаю кнігай у пачатку дзевяностых. Многае з тае пары змянілася.

Праз вобраз аўтара цікава высвечваецца праблема бацькоў і дзяцей, суіснавання розных пакаленняў. Зразумела, яму абыходзіць неразуменне прадстаўнікамі маладога пакалення таго, чым і як жылі іх дзяды, бацькі. Так, у аповедзе „Аб цэпе і сярпе", якія пісьменнік зберагае ў гарадской кватэры, пераказана дыскусія, што выразна адлюстроўвае пазіцыю аўтара. Ягоны суразмоўца, юны варшавяк, не хавае свайго непрыняцця даўняга ладу жыцця, калі цяжкая штодзённая праца ўспрымалася як звычайная з'ява, без чаго нельга было выжыць. У ягоных рэпліках бачыцца не толькі рацыяналістычны падыход, але і чуецца непрыхаваная пагарда, знявага: „Гэта толькі сведчыць аб дурноце, ці ж нельга было малаціць малатарняй? Малатарні ж існуюць ад пачатку XX стагоддзя!". Перад такімі заявамі аўтар быццам бы адступае. Ды гэта зусім не азначае, што ён адступаецца, адракаецца, што ён перастае любіць тое мінулае, хай невыносна цяжкае, але такое дарагое, бо сваё, перажытае: „Пасля гэтага я перастаў свой цэп паказваць маладым людзям, бо пераканаўся, што ён маладому пакаленню ўжо не аргумент". Пісьменнік не расшыфроўвае: аргумент чаго. Таму што не зразумець маладому максімалісту, распешчанаму выгодамі цывілізацыі, дзеля чаго была тая непасільная праца, чаму не маглі знайсці магчымасці аблегчыць яе. Бо гэтае пакаленне вымярае тыя даўнія ўмовы жыцця сучасным яму, сваімі крытэрыямі, сваімі магчымасцямі. Гэта як існаванне ў паралельным свеце, дзе судакранання быць не можа. Таму і для аўтара доказы маладога чалавека таксама не аргумент.

* * *

Адлюстраваныя ў аповесці Алеся Барскага духоўныя здабыткі, калектыўны досвед люду беларуска-польскага памежжа складаецца з досведу індывідуумаў, між якіх першае слова аддадзена самаму дарагому чалавеку — маці. І тут творца не ўнікае паэтычнае мовы, бо выказаць патрэбна вельмі глыбокае, высокае і адначасна вельмі інтымнае пачуццё: „Серп матчын краную, праводжу пальцам па вастрыі і бачу тады далёкае дзяцінства, спелае збожжа, шчодрае сонца, дабраслаўлёную пару жніва, святую і прачыстую постаць — з сярпом і збожжам у руках — сваю МАЦІ". Вылучае гэтае слова, каб і для чытача засвяціцца яно тою вялікаю любоўю, шанаваннем, якое назаўсёды застанецца ў душы героя. Асоба маці выразна паўстае ў аповедзе „Аб мучаніцах". Мучаніцы святыя — такімі яны і былі, беларускія вясковыя жанчыны. Найперш гэта працаўніцы. Уражвае ўжо толькі сам пералік, зусім няпоўны, розных хатніх і няхатніх заняткаў. Праца не проста пералічваецца. Аўтар не перастае здзіўляцца незвычайнай вынослівасці, спрыту, адданасці, цярплівасці маці: „Не памятаю ніводнага выпадку, каб яна спала або адпачывала тады, калі я быў на нагах. Заўсёды была пры рабоце, пры нейкіх занятках". Блізка пераклікаецца з вобразам Янкі Брыля. І яшчэ адзін штрых, важны для характарыстыкі асобы вясковай жанчыны, прыкмечаны пісьменнікам: яе абавязак — карміць сям'ю, а права самой паесці разам з усімі не мела. І не наракала. Гэта было звычайным у сям'і: гаспадыня павінна накарміць іншых. Калі б пра гэты няпісаны закон вясковага жыцця напісаў нехта старонні, гэта не выклікала б, відаць, такога спачування, такое шчырае пяшчоты. Бо тут пра маці піша сын, які шануе, спачувае і аддана любіць яе. І нават аддаленасць у часе не здолела

працяг ☞ 10

**Аляксандр Баршчэўскі** (псеўд. Алесь Барскі, нарадзіўся 2 лістапада 1930 г. у вёсцы Бандары Міхалоўскай гміны) — беларускі паэт і літаратуразнавец, прафесар філалагічных навук. Скончыў Лодзінскі ўніверсітэт у 1955 годзе. З 1956 года выкладчык Варшаўскага ўніверсітэта. У 1966 г. абараніў у Варшаўскім універсітэце кандыдацкую дысертацыю на тэму «Творчасць Я. Коласа 1906—1930 гадоў»; загадчык Кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта ў 1975-2004 гадах.

Супрацоўнічаў з Люблінскім каталіцкім універсітэтам і Універсітэтам Марыі Складоўскай-Кюры ў Любліне. У 1993 годзе атрымаў званне ганаровага доктара Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта ў Мінску. З 1993 года з'яўляецца старшынёй Цэнтральнага камітэта Алімпіяды па беларускай мове ў Польшчы.

Друкавацца пачаў у «Ніве» з 1956 года. Як паэт дэбютаваў у зборніку «Рунь» (Беласток 1959). Аўтар паэтычных зборнікаў «Белавежскія матывы» (Беласток 1962), «Жнівень слоў» (Беласток 1967), «Мой бераг» (Мінск 1975), «Блізкасць далёкага» (Беласток 1983), «Лірычны пульс» (Мінск 1987) і кнігі «Выбраныя творы» (Мінск 2011).

Аўтар артыкулаў па гісторыі беларускай літаратуры (у штотыднёвіку «Ніва» і «Беларускім календары») і цыкла артыкулаў «Беларуская літаратура і беларускі фальклор» (1965-1988), універсітэцкіх падручнікаў «Гісторыя беларускай літаратуры — фальклор» (1976), «Гісторыя беларускай літаратуры — пісьменнасць Кіеўскай Русі і Вялікага Княства Літоўскага» (1981), «Творцы беларускага літаратурнага руху ў Польшчы. 1958-1998» (Варшава 2001), «Беларуская эміграцыйная пісьмовасць» (Варшава 2004) і іншых. Пераклаў на польскую мову зборнік беларускіх народных казак «Д'ябальская скрыпка» (1973), зборнік казак Міншчыны, Гарадзеншчыны і Магілёўшчыны «Невычэрпны збан» (1976). Складальнік, аўтар прадмовы і біяграфічнага артыкула да кнігі Я. Купалы «Выбраныя паэтычныя творы» (Варшава 1984), для якой пераклаў на польскую мову паэму «Яна і Я», а таксама вершы. Збірае, публікуе і даследуе беларускі фальклор Беласточчыны. Аўтар зборніка абразкоў, артыкулаў, дарожных нататак «З пабачанага і перажытага» (Мінск 1992).



# Памяці паўстанцаў

Акцыя, прысвечаная памяці герояў палеглых за Радзіму — Дзень памяці паўстанцаў 1863 года — традыцыйна прайшла ў Свіслачы. Як заўсёды ў апошнія выходныя кастрычніка ўжо больш за дваццаць год запар ладзіцца гэтае мерапрыемства. На яго прыходзяць не толькі жыхары Свіслачы, але і прыязджаюць людзі з усёй Гарадзенскай вобласці, а таксама прадстаўнікі Мінска ды іншых гарадоў і рэгіёнаў Беларусі. Гэтае мерапрыемства адкрывае шэраг іншых акцый, звязаных з ушанаваннем продкаў і з'яўляецца пярэдаднем Дзядоў. Летась гэтая штогадовая акцыя Асамблеяй нёўрадавых арганізацый была прызнана рэгіянальнай падзеяй года.

У Свіслачы грамадскімі актывістамі і краязнаўцамі была знойдзена магіла Віктара Каліноўскага, роднага брата кіраўніка паўстання Кастуся Каліноўскага. Віктар Каліноўскі быў ідэйным натхняльнікам свайго брата. На жаль, ён не дажыў да паўстання. Яго ж брат, нацыянальны герой беларусаў Кастусь Каліноўскі, узняў узброены супраціў супраць акупантаў. Ён быў схоплены ворагам і павешаны ў Вільні, а цела карнікамі было знішчана ці схавана так, каб беларусы не ведалі дзе яно. Таму гэтае мерапрыемства, Дзень памяці паўстанцаў і ўсіх палеглых за Беларусь, традыцыйна праводзіцца ў Свіслачы ля магілы Віктара Каліноўскага.

З году ў год гэтае мерапрыемства ладзіцца прыкладна па адным сцэнарыі. Арганізатары прыйшлі да высновы, што нічога мяняць не трэба, бо гэта Дзень памяці і мусіць адбывацца па беларускіх нацыянальных традыцыях ушанавання.

Пачынаецца ўсё малебнам у мясцовым храме. Затым усе збіраюцца на магіле Віктара Каліноўскага, дзе пасля кароткай прамовы хвілінай маўчання ўшаноўваецца памяць герояў. Лунаюць бел-чырвона-белыя сцягі. Удзельнікі прыходзяць у цэнтр горада да помнікаў Кастусю Каліноўскаму і Рамуальду Траўгуту. Ускладваюцца кветкі, запальваюцца зніччы, гучаць прамовы. Затым усе едуць у Якуноўку, дзе на месцы радавой сядзібы Каліноўскіх усталяваны крыж і пастаўлены памятны камень. Тут пра нашых герояў апавядаюць не толькі арганізатары, але і госці. Практычна ўсе лідары апазіцыі выступалі тут і аддавалі даніну павагі нашым слаўным продкам.

Ну а пасля паўстанцкая вольніца. Лес, вогнішча, стравы, напоі і песні беларускіх бардаў ды іншых вядомых выканаўцаў. Раз'язджаючца ўдзельнікі заўсёды натхнёныя і самой падзеяй, і ўспамінамі пра мужнасць тых беларусаў, якія былі да нас.

Хоць свята праходзіць увесь час па адным і тым сцэнарыі, улады на яго рэагуюць кожны год па-рознаму. Хто там аддае загады застаецца таямніцай. Зразумела толькі адно — вельмі многім не падабаецца адраджэнне беларускай нацыянальнай свядомасці. Нервуе іх хіба і тое, што, не ўзіраючы на пераследы, штогод беларусы прыязджаюць сюды, каб даказаць усім, а найперш сабе самім, што наш народ застаецца вартым сваіх слаўных герояў.

Удзельнікаў Дня памяці неаднаразова затрымлівалі і судзілі, запалохвалі і перашкаджалі збірацца. Бывала, што хоць усё праходзіла пад пільным наглядам сілавікоў з абавязковым запісваннем таго, што адбываецца, на відэакамеру, абыходзілася без пераследаў.

У гэтым жа годзе перашкоды пачаліся загадзя. 29 кастрычніка гарадзенскі аўтапарк, відавочна што пад ціскам звонку, адмовіў арганізатарам у прадстаўленні ўжо аплачанага аўтобуса. Арганізатар аўтобуснага выезду ў Свіслач і вядучы акцыі Уладзімір Хільмановіч падаў скаргу на імя дырэктара. Тэрмінова быў запушчаны запасны варыянт даезду ў Свіслач, і гарадзенцы таксама, разам з наведвальнікамі з іншых мясцін, змаглі аддаць даніну памяці нацыянальным героям.

Само ж мерапрыемства прайшло без дадатковых эксцэсаў. Невядома як будзе далей. Чакаць можна чаго заўгодна. Прыкладам, удзельнік мінулагодняй акцыі Вадзім Саранчукоў ледзьве не праз год атрымаў паведамленне, што, аказваецца, быў суд і ён прызнаны вінаватым і пакараны. Як будзе гэтым разам не ведае ніхто.

А ўдзельнікі раз'ехаліся з цвёрдым перакананнем, што недалёкі той час, калі эстафету арганізацыі гэтага мерапрыемства возьме на сябе сапраўдная беларуская ўлада.

Вечная памяць героям, якія аддалі свае жыцці за Радзіму!!!

Жыве Беларусь!!!

**Віктар САЗОНАЎ**

# Пякельныя схільнасці

Змены, змены, змены... Нічога незвычайнага. Кажуць, чалавечы мозг кожныя сем гадоў перамяняе ўсе зношаныя клеткі, спраўна прытым перамяшчаючы захаваныя ў іх інфармацыі і вопыт у новыя. Такім чынам, захоўваецца пераемнасць чалавечага характару. Іншая справа, калі гэты працэс падлягае тонкім парушэнням, даючы ў выніку сціранне нейкай інфармацыі або празмерную экспазіцыю іншай, поўнасцю змяняючы іх папярэднюю храналогію, а нават іерархію. Тое, што здавалася быць надзвычай важным, аказваецца, практычна не мае значэння. Ці наадварот. З часам, усё, што адбываецца ў мозгу, складваецца паводле нейкага парадку. Неабавязкова такога ж парадку, як і папярэдні. Гэтае правіла распаўсюджваецца таксама на палітыку. Грамадзянская платформа правіла ў Польшчы восем гадоў, па меншай меры, на адзін год задоўга. Так моцна знасілася. Прыйшоў час для перамен. Рана ці позна, аднак, прыйдзе пара на змены.

Амаль паўсюднае і здаўна сфармуляванае патрабаванне змен на польскай палітычнай сцэне, нарэшце, знайшло сваё задавальненне ў выбарах у нядзелю 25 кастрычніка. Ужо на світанні, менавіта ў 3 гадзіну, мы падаліся назад у часе, перавёўшы стрэлкі гадзіннікаў на 2 гадзіну. Без сумневу, гэты факт быў не проста сімвалічным. Можна было ў гэтым пераканацца ў 21 гадзіну, калі перастала абавязваць выбарчая цішыня. Стрэлкі палітычных сімпатый палякаў відавочна змянілі на выбарчым цыферблаце кірунак кручэння — з левага направа. Права і справядлівасць выйграла рашуча, шакіруючы папуліскімі лозунгамі, якія, верагодна, увялі ў зман частку левага электарату. Зноў прыйдзецца яму сур'ёзна за гэта заплаціць. А тым часам ганьбай накрылася яго партыйнае прадстаўніцтва. Польскай лявіцы не ўдалося правесці выбарчую поўную замену зношаных клетак новымі. Аб поўным разгроме ГП, ці хутчэй пра яе піравую перамогу, не пара яшчэ судзіць. У рэшце рэшт, гэтую партыю падтрымала амаль 1/3 галасоў выбаршчыкаў. У агульнай складанасці столькі не атрымалі два іншыя бенефіцыянты палітычных перамен: партыі „Кукіз'15" ці „Сучасная" Рышарда Пэтру. Засталася яшчэ ПСЛ, на працягу многіх гадоў балансуючая на выбарнай мяжы. Тым не менш, можна выказаць здагадку, што, як звычайна, працінецца яна праз выбарчае сіта цудам, даказаўшы тым самым, што значэнне цудаў у Польшчы на працягу многіх гадоў падлягае прагрэсіўнаму збядненню. Напышлівы заклік яе старшыні «Мы былі, мы ёсць, мы будзем» паказвае такім чынам, што партыйнае кумаўство, сямейнасць, палітычная пыха і невуцтва, прытым сапраўды незлічоны рой «сялянскіх» трутняў, якія абселі дзяржаўныя сельскагаспадарчыя агенцтвы, былі, ёсць і будуць у Польшчы добра мецца. Акажацца ў бліжэйшы час, што пераможнае ПіС, якое, у сваю перадвыбарчую агітацыю заклікала да радыкальных змен у палітычнай маралі, вельмі хутка прыйдзе да прагматычнага ацверажэння. Для таго, каб ажыццявіць нават невялікую частку сваіх праграмных мэт, нават з парламенцкай большасцю, немагчыма абысціся без падтрымкі парламенцкіх апартуністаў, якім усё роўна, з кім уваходзяць у альянсы — абы застацца на палітычнай паверхні.

Пакуль што польскі час, хоць часова выбіты са старога рытму, усё ж бяжыць наперад. Хоць у цяперашні час бліжэй яму да беларускага калегі, што можа турбаваць чытачоў «Нівы», але ж да году адробіць страчаную гадзіну. Гэта не значыць, што беларускі час лепшы ці горшы, чым польскі. Вось, гэта значыць толькі тое, што, ад калі Беларусь, па ўзору Расіі, перастала пераводзіць стрэлкі гадзіннікаў, апынулася з ёю ў адным часавым поясе. Ці таксама палітычным? Пажывем, пабачым. Непазбежна таксама пабачым, калі дажывем, як будзе праходзіць уладаранне ПіС у Польшчы. У цяперашні час яно рыхтуецца прыняць уладу. Абы толькі яго *rządy* не скончыліся *nierządem*. Многае залежыць у гэтых адносінах ад ГП. Калі яна прыме палітычнае пакаянне, калі шчыра разлічыцца з грахоў вельмі многіх недаглядаў, ёсць шанц, што польская дэмакратыя абароніць сябе ад падзення. Вялікія надзеі ў сувязі з гэтым таксама варта пакласці на „Сучасную" Рышарда Пэтру і крыху асобна на шчырасць Кукізавых намераў. Калі нават яны зараз здаюцца быць наіўнымі, гэты перыяд палітычнай «прышчатасці» пройдзе і могуць яшчэ яны вельмі ўразіць сваім спелым тварам. Хоць, калі хто памятае Польскую партыю аматараў піва, апаганеную гадамі таму парламенцкім інфантылізмам, можа мець таксама абгрунтаваныя апаскі. Не трэба забываць, што добрымі намерамі выбрукавана не адна дарога ў палітычнае пекла. Гэтая заўвага, дарэчы, адносіцца да ўсіх палітычных сіл у Польшчы. Усе яны, на жаль, маюць пякельныя схільнасці.

**Міраслаў ГРЫКА**



## Вачыма еўрапейца

# Парламент без «нашых»

Як ужо ведаеце, у парламенце, якога склад выбіралі мы 25 кастрычніка, не будзе ніводнага прадстаўніка са спасылкай на беларускае, праваслаўнае асяроддзе або які з яго выводзіцца. З хранікёрскага абавязку і на старонках «Нівы» зафіксую, што ў Сейм ад нашага рэгіёна ўвайшлі восем дэпутатаў ад ПіС (агулам камітэт гэтай партыі атрымаў тут падтрымку 45,4 прац.), на чале з лідарам у рэгіёне кіруючай цяпер самастойна ў краіне партыі Кшыштафам Юргелем, рашучым пераможцам выбараў на Падляшшы — атрымаў ён 44 620 галасоў. Акрамя таго, у парламент трапілі з Грамадзянскай платформы старшыня падляшскай ГП Роберт Тышкевіч (19 453 галасоў), прадпрымальнік, сын Владзімежа Цімашэвіча, Тамаш Цімашэвіч (14 496), і Бажэна Камінская з Сувалкаў. З выбарчага камітэта «Кукіз'15» мандат здабыў 25-гадовы Адам Андрушкевіч, лідар мясцовых структур радыкальна нацыяналістычнай «Усяпольскай моладзі». «Сучасную» Рышарда Пэтру з Падляшша будуць прадстаўляць сын прэзідэнта Беластока, бізнесовец Кшыштаф Трускаляскі і ад ПСЛ Мечыслаў Башко (7 010 галасоў; на апошніх выбарах у ваяводскі сеймік падтрымала яго 16 346 выбаршчыкаў), які ў сувязі з выбарам у Сейм адмовіўся ад функцыі маршалка ваяводства, што неўзабаве спрычыніцца да выбару новай цэлай ваяводскай управы (верагодна, па-ранейшаму ў кааліцыі ПСЛ-ГП).

У Сенаце будуць засядаць прадстаўнікі Падляшша толькі ад Права і справядлівасці: Ян Дабжынскі — былы сенатар, ваявода і радны сейміка, Багдан Пашкоўскі — былы сенатар і былы падляшскі ваявода ды абраны ў гэтак званай меншаснай акрузе Тадэвуш Раманчук — старшыня малочнага кааператыва «Bielmlek» у Бельску-Падляшскім (здабыў 39 607 галасоў). Ён выйграў тут з Югенам Чыквіным, які правёў у Сейме сем тэрмінаў паўнамоцтваў, у асноўным ад СЛД, а ў апошніх выбарах у Сенат балатаваўся пад сцягам уласнага камітэта. Ён карыстаўся падтрымкай 32 896 выбаршчыкаў і пасля пройгрышу паінфармаваў, што ўдзел у кастрычніцкіх выбарах быў яго апошнім.

У выбарах у Сейм сярод «нашых», нягледзячы на пройгрыш, аб неблагім выніку можа казаць Аляксандр Сасна, які стараўся за мандат са спіса Аб'яднанай лявіцы, якая не перавысіла выбарчага парога. Яго падтрымала 8 056 выбаршчыкаў і быў ён бясспрэчным пераможцам у гайнаўскіх вясковай і гарадской гмінах ды сярод «нашых» у абедзвюх бельскіх гмінах. Таксама Яраслаў Матвяюк, які балатаваўся са спіса ПСЛ, дамогся добрага выніку, другі на тым спісе пасля Мечыслава Башко — 5 589 галасоў, а Мікалай Яноўскі — 1 811 (перамогся перад Тамашом Цімашэвічам у Гайнаўскім павеце). Адам Мусюк, прадстаўнік Форуму меншасцей Падляшша на спісе Грамадзянскай платформы таксама карыстаўся немалой падтрымкай — 6 021 голас. У сваю чаргу, іншыя кандыдаты з нашага асяроддзя атрымалі: са спіса Аб'яднанай лявіцы Міраслаў Чыквін — 2 628, Мікалай Міранові — 524, Аркадзь Вашкевіч — 768 галасоў, са спіса «Разам» — Севярын Пракапюк — 4 079, Міхал Іванюк — 252 галасы. Ва ўсім ваяводстве яўка склала 47,1 працэнта. У гмінах, значна населеных беларускай меншасцю, прыкметным з'яўляецца адыход выбарчых сімпатый, накіраваных да левых. У Гайнаўскім павеце (яўка: 40,4%) выйграла ГП — 22,1%, апярэджваючы Аб'яднаную лявіцу — 20%, і ПСЛ — 18,3%. У Бельскім павеце (яўка 44,7%) відавочным пераможцам стала ПіС — 45,6%, затым — ГП — 15,4% і толькі пасля лявіца — 14,1%. У Сямятыцкім павеце (яўка 41,4%), чарговасць першых пераможных камітэтаў сфармавалася падобным чынам, а ў Беластоцкім лявіца апынулася за камітэтамі «Кукіз'15», ПСЛ і «Сучасная». Трохі інакш галасы былі падзеленыя ў некалькіх «нашых» гмінах. Напрыклад, у гарадской Гайнаўскай гміне выйграла ГП. У вясковай Гайнаўскай гміне — ПСЛ, так як, між іншым, у Чыжоўскай, Дубіцкай, Нараўчанскай і Нарваўскай. У гарадской і вясковай Бельскай гмінах — перамагло Права і справядлівасць, падобна як у Міхалове і Боцьках. ГП атрымала найбольш галасоў у Гарадку ці Кляшчэлях. Найбольшую падтрымку Аб'ядналая лявіца мела ў Орлі і Чаромсе.

У Беластоку яўка склала 56,6%. Сярод партый, якія ў канчатковым выніку ўвайшлі ў парламент, ПіС дасягнула 37,8%, ГП — 21,6%, «Кукіз'15» — 15,9%, «Сучасная» — 8,3%, ПСЛ — 3,8% галасоў. Аб'ядналая лявіца з падтрымкай 9,5% здабыла трэці вынік, а ПСЛ была апярэджана камітэтам КОРВІН — 5,8%.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# «Бежанства» на мастацкіх працах Данеля Грамацкага

Гайнаўскага мастака Данеля Грамацкага часта спатыкаў я на выставах у Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы. Там знаходзіцца яго майстэрня, у якой апошнім часам многа працаваў. Мастак рыхтаваў работы да дзвюх персанальных выстаў: манатыпіі — на выставу пра бежанства, якая цяпер знаходзіцца ў Музеі ў Бельску-Падляшскім, і алейныя карціны з рознымі тэмамі — на экспазіцыю ў Гайнаўскім доме культуры. У мінулым Данель Грамацкі прыступіў да праекта «Беларускі алфавіт мастацтва», у рамках якога Беларускі музей арганізаваў яму персанальную выставу і выдаў альбом рэпрадукцый



яго лепшых карцін. Альбом увайшоў у састаў «Слоўніка беларускіх мастакоў», які прэзентуе творчасць беларускіх мастакоў з Польшчы і Рэспублікі Беларусь. Раней з ахвотнымі вучыцца мастацтву займаўся ў белмузеі славуты гайнаўскі мастак Віктар Кабац. Цяпер з пачаткоўцамі заняткі вядзе Данель Грамацкі, а яго вучань Міраслаў Хіліманюк стаў лаўрэатам Агляду непрафесійнага мастацтва Гайнаўскай зямлі ў катэгорыі жывапісу. Віктар Кабац, якому сёлета споўнілася 80 гадоў, перадаў Данелю Грамацкаму таксама арганізаванне Міжнароднага жывапісна-разьбярскага пленэру «Нараўка», які сам стварыў і ўдала ладзіў звыш 10 гадоў. У гэтым годзе ў нараўчанскім пленэры прыняў удзел Станіслаў Асташэўскі, старшыня Беластоцкага аддзялення Саюза польскіх мастакоў «Польскае прыкладное мастацтва», які ўдзельнічаў у ранейшых пленэрах.

— Віктар Кабац заўважыўшы талент Данеля Грамацкага, спачатку запрасіў яго на нараўчанскі пленэр, а пасля перадаў яму яго арганізаванне. Віктар Кабац увёў Данеля Грамацкага ў Саюз польскіх мастакоў «Польскае прыкладное мастацтва». Я таксама бачу мастацкі талент Данеля Грамацкага і рады, што ён умела гэты талент разгортвае. Выконвае ён цікавы жывапіс, алейныя і іншыя працы, вядзе пошукі новага і дасканаліць здабыты ўжо варштат працы, — сказаў Станіслаў Асташэўскі.

Данель Грамацкі нарадзіўся і жыве ў Гайнаўцы. Ён выпускнік мастацкага і гуманітарнага аддзяленняў Універсітэта ў Любліне і спецыяльнасці «тэхнікі жывапісу і пазалоты» ў Школе мастацтва і праектавання ў Любліне. Належыць ён да Саюза польскіх мастакоў «Польскае прыкладное мастацтва». Займаецца перш за ўсё жывапісам, але таксама графікай, іканапісам, выконвае кансервацыйныя і пазалотныя работы. Прымаў удзел у агульнапольскіх і міжнародных пленэрах жывапісу, яго працы прэзентаваліся на выставах у Польшчы, Беларусі і Латвіі. Мастацтву Данель Грамацкі вучыць у Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы і ў Падставовай школе № 2 у Бельску-Падляшскім. Жывапіс Данеля Грамацкага можна пабачыць у Гайнаўскім доме культуры, дзе ў кастрычніку была адкрыта яго персанальная выстава.

Станіслава Асташэўскага спаткаў я 13 кастрычніка ў Музеі ў Бельску-Падляшскім на адкрыцці выставы манатыпіі «Бежанства. На ростані» Данеля Грамацкага, прысвечанай бежанству 1915 года.

— Я пад уражаннем ад манатыпіі Данеля Грамацкага. Прэзентаваныя працы цікавыя. Калі Данель будзе разгортваць гэты напрамак, мае шанц дабіцца поспехаў і ў графіцы. Тут ёсць урок гісторыі і мастацтва. Карыстаючыся манатыпіяй, Данель Грамацкі паказвае свае перажыванні і прэзентуе цікавыя мастацкія працы. Патрапіў ён стварыць клімат бежанства з выкарыстаннем графікі, на якой паказаны перажыванні бежанцаў і з якой эмануе эмацыйнасць, — заявіў Станіслаў Асташэўскі, старшыня беластоцкіх мастакоў.

На экспазіцыі паказаны адчуванні мастака, выкліканыя аповедамі і сабранымі ім інфармацыямі наконт бежанства 1915 года. Дагэтуль паказваліся выставы архіўных здымкаў перыяду бежанства. Мастацкая экспазіцыя ў Бельску-Падляшскім з'яўляецца ўдалым іх папаўненнем.

— У Бельску прэзентуецца першая мая вялікая выстава. Яна з'яўляецца першай маёй экспазіцыяй манатыпіі. Сёлета адзначаем сотую гадавіну бежанства — трагічных здарэнняў, якія адбыліся на нашых землях і закранулі амаль кожную нашую сям'ю. Бацькі народжанай у 1915 годзе маёй прабабулі Марыі засталіся жыць у вёсцы Горнае (зараз вуліца Горная ў Гайнаўцы — А. М.) і, насуперак прапагандзе і націску тагачасных улад, не рашыліся выязджаць. Я іх эмоцыі паказваю тут, на маіх працах. Я не гісторык, сацыёлаг ці псіхолаг. Я стараўся перш за ўсё перадаць свае адчуванні. На маіх работах відаць страх і перажыванні маіх сямейнікаў, маладой маці маёй прапрабабулі, якая рашаецца перачакаць фронт на месцы, калі іх суседзі і знаёмыя выязджаюць у глыб Расіі. Я стараўся паказаць эмоцыі і перажыванні людзей, якія падаліся ў бежанства, — сказаў на вернісажы мастак Данель Грамацкі. — Працы, якія тут бачыце, паўсталі ў тэхніцы манатыпіі, аднак знойдзем на іх таксама дэталі каліграфіі і рысунку. Манатыпія — адна з тэхнік графікі, найбольш падобная да жывапісу. Дазваляе яна, карыстаючыся невялікім інструментарыем, атрымаць цікавыя мастацкія рэзультаты. Я лічу, што выбар тэхнікі манатыпіі меў вялікае ўздзеянне на клімат паказаных тут работ.

На прэзентаваных у музеі працах відаць, між іншым, выявы людзей, якія ад'язджаюць у бежанства, моляцца перад іконамі і завяраюць сябе Божай апецы, развітваюцца з тымі асобамі, якія астаюцца дома.

— У бежанства выязджалі людзі розных нацыянальнасцей і веравызнанняў і ўсіх іх у аднолькавай ступені спасцігла гэтая трагедыя і яе паслядоўнасці. Спачатку я прыняў удзел у конкурсе «Я ёсць, бо вярнуліся» і выканаў работы пра бежанства ў манатыпіі. Тое, што стаў я лаўрэатам конкурсу, было штуршком выканаць чарговыя працы пра бежанства. Манатыпія выконваецца намнога хутчэй, чым жывапіс, але трэба шукаць самай лепшай адбіткі, бо кожная з іх непаўторная. Думаю, што ў будучыні паспрабую разагрнуць гэтыя ўмеласці і буду выконваць у тэхніцы манатыпіі іншыя тэмы, — дабавіў Данель Грамацкі.

Выставу адкрыла кіраўнік бельскага філіяла Падляшскага музея ў Беластоку Аліна Дэмбоўская, якая сказала:

— На выставе бачым цудоўныя працы Данеля Грамацкага на тэму бежанства 1915 года. Яны нас захапляюць, але адначасна перадаюць атмасферу бежанства. Відаць на іх перажыванні аўтара. Можам тут заўважыць страх перад невядомым і новым месцам, да якога адпраўляюцца бежанцы

На адкрыццё экспазіцыі прыбылі жонка мастака Іаанна Грамацкая, настаўніца Гайнаўскага белліцэя і яго дзве дачкі. Адна з іх, Анастасія, вучаніца першага класа пачатковай школы, прымала ўжо ўдзел у мастацкіх конкурсах і перамагала. На мерапрыемства прыбыла таксама галоўны інструктар па справах мастацтва і рукадзелля Бельскага дома культуры Марыя Бабулевіч.

— Тут адбываецца сімвалічнае падарожжа ў мінулае стагадовай даўнасці. Мастацкае адлюстраванне бежанства з'яўляецца важным, побач запісаных успамінаў, гістарычных матэрыялаў, ці захаваных даўніх фатаграфій. Прэзентаваныя тут манатыпіі вельмі цікавыя і кожная з іх вартая, каб перад ёю затрымацца і паглядзець на яе, — заявіла Марыя Бабулевіч.



■ Данель Грамацкі на адкрыцці выставы «Бежанства. На ростані» ў Музеі ў Бельску-Падляшскім

— Выстава манатыпіі пра бежанства гэта чарговае мерапрыемства, арганізаванае ў Бельску-Падляшскім у рамках адзначэння 100-й гадавіны бежанства. Самай вялікай імпрэзай, якой суарганізатарам быў наш магістрат, была рэканструкцыя выезду ў бежанства і Бельскай бітвы ў Студзіводах. У Бельскім доме культуры прэзентавалася тэатральная пастаноўка пра бежанства. Каля ратушы паказвалася выстава гістарычных фатаграфій перыяду бежанства. Выдалі мы «Бежанскую газету», з нашага бюджэту мы фінансавалі ўзнагароды для жыхароў нашага горада, якія сталі лаўрэатамі мастацкага конкурсу «Я ёсць, бо вярнуліся». Выйшаў раман пра бежанства аўтарства нашай жыхаркі Барбары Гаральчук. Сённяшняя прэзентацыя графікі гэта паказанне бежанства праз мастацтва, — сказаў бельскі бургамістр Яраслаў Бароўскі. — Працы Данеля Грамацкага цікавыя, мне падабаецца экспазіцыя. З выкарыстаннем манатыпіі нельга паказаць дэталі, але мастак можа лепш паказаць свае эмоцыі і адчуванні.

Аўтарка польскамоўнай кніжкі пра бежанства «Надзея ажно да небакраю» Барбара Гаральчук пахваліла працы Данеля Грамацкага за змест, які выклікае эмоцыі, і за іх мастацкую арыгінальнасць.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

# Уключы разнароднасць

Шматмоўная бібліятэка ў Осла на сённяшні дзень распараджаецца калекцыяй кніжак на 64 мовах свету, у тым ліку польскамоўнымі выданнямі. Палякі з'яўляюцца найбольш шматлікай групай эмігрантаў, прыбылых у Нарвегію апошнім часам.

— Якое стаўленне вашых бібліятэк да патрабаванняў чытачоў з ліку этнічных меншасцей? — пытаю Адбёрна Гансена, прадстаўніка той жа бібліятэкі.

— Нацыянальных меншасцей у нас няшмат і яны невялікія. Гэта саамы на поўначы краіны і ромы, якія прыехалі ў Нарвегію шмат гадоў таму. Нацыянальныя меншасці ўжо з самага вызначэння нарвежцы. Яны не эмігранты, таму не знаходзяцца ў кампетэнцыі Шматмоўнай бібліятэкі ў Осла. Знявагай і ў кепскім смаку тут трактаванне нацыянальных меншасцей нароўні з эмігрантамі. Іх абслугоўваюць мясцовыя бібліятэкі, гэта іх святы абавязак. Ёсць кніжкі пра саамаў, але, на жаль, кніжак на саамскай мове выдаецца штораз менш, а без гэтага, як вядома, нацыя не ператрывае.

З Адбёрнам сустрэліся мы ў Варшаве на Агульнапольскім кангрэсе бібліятэк „Уключы разнароднасць", які праходзіў з 22 па 23 кастрычніка.

Кангрэс арганізаваў Фонд развіцця інфармацыйнага грамадства (ФРІГ) у садзеянні з Аб'яднаннем польскіх бібліятэкараў і Аб'яднаннем практыкаў культуры. Праходзіў ён пад медыйным патранатам, між іншым, тыднёвіка „Палітыка" і І праграмы Польскага радыё. Богна Мразоўская з Фонду развіцця інфармацыйнага грамадства, сааўтарка ідэі праекта і яго арганізатарка, сказала нашым чытачам:

— Праз два гады, з мая 2013 да канца прошлага года, я рэалізавала праект „Бібліятэка месцам сустрэч шматлікіх культур". Праходзіў ён у чатырох ваяводствах: Паморскім, Вармінска-Мазурскім, Апольскім і Малапольскім. Тамтэйшых бібліятэкараў мы вучылі працаваць з этнічнымі меншасцямі, такімі як лэмкі, кашубы ці ўкраінцы, але таксама з імігрантамі. Да ўдзелу былі запрошаны і падляшскія бібліятэкі, але, што нас вельмі здзівіла, ніводная з іх не адгукнулася. У рамках праекта мы выпрацавалі ўзор шматкультурнай бібліятэкі, апісаны ў падручніку „Шматкультурная бібліятэка", які даступны таксама ў інтэрнэце на сайце нашага кангрэса. Праект завяршыўся цыклам канферэнцый. Так склалася, што гэтая ідэя не выйшла па-за рамкі згаданых чатырох ваяводстваў. Мне замарылася агульнапольская канферэнцыя, на якой мы маглі б выказацца больш гучна і пашырыць распаўсюджанне нашай ідэі. Вельмі цешуся, што надалей працягваем двухгадовай даўніны напрацоўкі. У выніку апошняй вайны і пасляваеннага камунізму мы сталі маналітным грамадствам, а цяперашнія падзеі ў свеце патрабуюць ад нас, бібліятэкараў, адаптацыі і падрыхтоўкі да гэтага, што неўзабаве адбудзецца. Бібліятэкі павінны выйсці насустрач патрэбам цэлага насельніцтва, у тым ліку эмігрантаў. Каб добра з гэтым справіцца, неабходнае прывучэнне, якое мы стараемся запрапанаваць усім ахвотным.

Удзел у кангрэсе прыняло каля 200 бібліятэкараў з цэлай Польшчы, а таксама бібліятэкары-дакладчыкі з Харватыі, Намібіі, Нарвегіі, Украіны і Вялікабрытаніі. Прыехалі менш і больш вопытныя дзеячы ў плане шматкультурных дзеянняў. Гэтыя, якія ўжо супрацоўнічаюць з ФРІГ, значыць, удзельнікі праекта „Бібліятэка месцам сустрэч шматлікіх культур", дзяліліся сваім вопытам у ходзе кангрэсавых прэзентацый.

„Усё пачалося з Гётэ..." — азагаловіла свой даклад Дагмара Батуг з Ніжнесілезскай бібліятэкі ў Вроцлаве. Захапілася яна шматкультурнасцю. У Вроцлаве культур сапраўды шмат. Толькі не спадзявалася, які цяжар прымае на свае плечы, пачынаючы сур'ёзна займацца гэтай тэмай. Дарога шматкультурнасці аказалася надта цярністай, вядучай не ў сіні верх, а ў цёмны ніз, яна прыгнятае, шакіруе. Сіл у Дагмары штораз менш, але яшчэ не здаецца.

Мабыць, самы высокі ўзровень бібліятэчнай дзейнасці ў галіне шматкультурнасці паказаў польска-лэмкаўскі калектыў. У яго саставе Катажына Мархвіца і Бартламей Келтыка з Гарадской публічнай бібліятэкі ў Горліцах, а таксама Марыёля Загурская з Гміннай публічнай бібліятэкі ў Ропе, філіяла ў Лосі. Цяжка сказаць хто з іх лэмко, а хто паляк. Усе яны згодна імчацца ў адным напрамку, думаюць перш за ўсё пра будучыню, вераць у тое, што робяць і, што нямала важнае, ведаюць, што робяць. На іх супольным рахунку, між іншым, першае месца ў конкурсе „Бібліятэка месцам сустрэч шматлікіх культур" і праект „Рэгіяналія" — лэмкаўскія бібліятэкі ў інтэрнэт каталогу Гарадской бібліятэкі ў Горліцах. Акрамя таго сустрэчы, канцэрты, спектаклі, прысвечаны ў асноўным тэме лэмкаўскай меншасці. Каб забяспечыць працяг сваім дзеянням, бібліятэка звязалася цесным супрацоўніцтвам з лэмкаўскімі суполкамі Руская бурса і Аб'яднанне лэмкаў. У бібліятэцы ў Лосі, дзе працуе Марыёля Загурская, няма кніжак на лэмкаўскай мове, але па-лэмкаўску можна тут заказаць іншую кніжку альбо праспяваць песню на арганізаванай Марыёляй бібліятэчнай вечарыне. Як сцвярджае спадарыня Марыёля, лэмкі сваёй мовы не саромеюцца. У хатах карыстаюцца выключна лэмкаўскай, а па-польску дзеці пачынаюць гаварыць толькі ў школе. Найбольш яе трывожыць адсутнасць рэгіянальнай адукацыі ў школе.



■ Магда Сабалеўская (пры камп'ютары)




■ Лена Рагоўская



■ Уключы разнароднасць



■ Злева: Катажына Мархвіца, Бартломей Келтыка і Марыёля Загурская

Галоўным пунктам праграмы кангрэса была інтэрактыўная гульня, у рамках якой ігракі — сур'ёзныя, вопытныя людзі знаёміліся, між іншым, са значэннем такіх слоў як дыскрымінацыя ці асіміляцыя. Удзел у гульні, вядома, абавязковы, прытым каб супаставіцца і знайсці сябе ў такога тыпу задачах, неабходна зысці да ўзроўню прымітыўнага, зусім бяздумнага і нічога не ведаючага гомасапенса. Затое цікавымі аказаліся сустрэчы са шматкультурнымі адукатарамі. На асаблівую ўвагу і падзяку напэўна заслужыла адукатарка, беластачанка, маладая і вельмі прыгожая Магда Сабалеўская. Апошніх дзесяць гадоў свайго жыцця прысвяціла яна супрацоўніцтву з бежанцамі. Свае праграмы праводзіць у асноўным на турэцка-сірыйскім памежжы. Бывае таксама ў ЗША, у сірыйцаў, якім пашанцавала. Клапоціцца аб правы жанчын, заадно на сваёй дарозе сустракае сапраўды адданых сям'і бацькоў, братоў і мужоў. У Варшаву Магда прывезла некалькі аўтарскіх кінадакументаў, адзін з якіх пра канструкцыю лагерных цацак. Было таксама пра цярпенні езыдаў — політэістычнага, мірнага, зусім не гатовага ваяваць, і ў тым падобнага на беларусаў, народа. Жахлівыя, да слёз кранаючыя гісторыі.

Завяршэннем першага дня кангрэса быў спектакль Аб'яднання практыкаў культуры „Свята вясны/Святая вайна" ў выкананні дзяцей-бежанцаў з Чачні, Кыргызстана, Грузіі і Украіны. Гэтае аб'яднанне шматкультурнасцю займаецца ўжо ад дзесяці гадоў. Іх дзеянні, у асноўным, накіраваны на дапамогу бежанцам.

Пасля сур'ёзнага спектакля — сур'ёзная дыскусія з маладымі акцёрамі, маладымі па ўзросце, але дарослымі па жыццёвым вопыце.

Другі дзень кангрэса пачаўся з падвядзення вынікаў першага дня.

— Гэтым займалася я на працягу апошніх двух гадоў, — расказвала ўсім сабраным пра свой аўтарскі моўны праект Лена Рагоўская з варшаўскага Аб'яднання практыкаў культуры, адна з ініцыятарак і арганізатарак кангрэса. — Так гавораць у Крынках. Некаторыя называюць гэтую мову простай, іншыя марсіянскай. Моладзь яе саромеецца. У мяне таксама беластоцкі акцэнт. Я хацела паказаць, што наша польская мова разнародная і акцэнтаў не трэба саромецца.

Прагучалі словы высокаадукаванай, уражлівай на людскую крыўду жанчыны, прытым беластачанкі, якая ад двух гадоў дзейнічае ў цесным супрацоўніцтве з нашым тыднёвікам.

„Ніва" публічна супрацівілася дыскрымінацыі беларускай мовы арганізатарамі кангрэса. Рашуча выказала сваю нязгоду ад пачатку да канца, нягледзячы на спробы вядучых адабраць мікрафон.

Нічым абарона пакрыўджаных беларусаў прагучалі словы Агнешкі Касовіч з варшаўскага Фонду „Польскі міграцыйны форум". У сваім выступленні, пры нагодзе абмеркавання праблемы бежанцаў, яна заўважыла:

— Гэтых (эмігрантаў), якія карыстаюцца простай мовай (кепска вывучанай, не літаратурнай пальшчызнай) наш народ не ўспрымае сур'ёзна і не трактуе з належнай пашанай.

Арганізатары кангрэса даказалі, што іх лозунгі пустыя і што гучаць яны як лопнуты звон. Даказалі, што ім залежыць, у асноўным, на знаёмстве і падтрымцы культур ва ўсім сэнсе адлеглых, не зважаючы на тое, што, як падкрэсліў у сваім выступленні Адбёрн Гансен, яны прыходзяць і адыходзяць. Беларускую мову ўкінулі на само дно кангрэсавага мяшка. Пра верных сваім малым айчынам беларусаў не падумаў і не пацікавіўся ніхто. Больш таго, ім мы нават не нацыя, а простыя, каб не сказаць прасцецкі, народ.

Лена, уключы разнароднасць!

**На кангрэсе пабывала Іаанна ЧАБАН**



Злева: паслы Роберт Тышкевіч і Тамаш Цімашэвіч

# Прэзідэнцкае вета

На наступны дзень пасля парламенцкіх выбараў, то-бок 26 кастрычніка, прэзідэнт Анджэй Дуда наклаў вета на закон ад 25 верасня аб унясенні змяненняў у закон аб нацыянальных і этнічных меншасцях і рэгіянальнай мове. Мы пісалі пра закон шмат разоў, і ў апошні раз аб яго прыняцці. Адмаўляючыся падпісаць прэзідэнт успамінаў: «Гэты акт уводзіць шэраг змяненняў у Закон ад 6 студзеня 2005 г. аб нацыянальных і этнічных меншасцях і рэгіянальнай мове. Сумненні Прэзідэнта РП выклікае папраўка арт. 9 Закона, якая ўвяла магчымасць выкарыстоўвання перад органамі павета побач дзяржаўнай мовы, у якасці дапаможнай мовы, мову меншасці. Згодна з дзейным заканадаўствам, ёсць такая магчымасць толькі ў выступленні перад гмінным ўладамі. Магчымасць выкарыстання дапаможнай мовы абазначае, што асобы, якія належаць да меншасці, маюць права звярнуцца да органаў гміны і павета на дапаможнай мове ў пісьмовай ці вуснай форме, атрымаць па запыце адказ на дапаможнай мове ў пісьмовай ці вуснай форме, а таксама атрымаць па запыце даведкі, складзеныя на дзяржаўнай і дапаможнай мовах». Права на выкарыстанне дапаможнай мовы маюць мець таксама грамадзяне іншых дзяржаў-членаў Еўрапейскага Саюза і дзяржаў-членаў Еўрапейскай асацыяцыі свабоднага гандлю (EFTA) — удзельнікаў пагаднення аб Еўрапейскай эканамічнай прасторы. У абгрунтаванні можна прачытаць: «Прэзідэнт РП падаў пад сумненне адсутнасць ацэнкі фінансавага ўплыву на бюджэты паветаў і гмін, звязаных з увядзеннем і выкарыстаннем на іх абшарах дапаможнай мовы. Сумненне выклікае ацэнка фінансавых паслядоўнасцей, прадстаўленых у абгрунтаванні да законапраекта, у якім гаворыцца, што пашырэнне на паветы магчымасці выкарыстання моў нацыянальных і этнічных меншасцей і рэгіянальнай мовы ў якасці дапаможнай мовы можа прывесці да выдаткаў па гэтай прычыне 10 000 злотых у год для бюджэту адзінкі тэрытарыяльнага самаўрада. Гэтыя ацэнкі выклікаюць сур'ёзныя сумненні ў разліку прадстаўленай сумы, і не ахопліваюць іншых новых прапаноў, якія змяшчаюцца ў папраўках да закона».

Такім чынам, прэзідэнт спаслаўся на сумненні, якія выказвалі дэпутаты ПіС падчас заканадаўчай працы над законапраектам, пачатым толькі 10 чэрвеня гэтага года ў Сейме папярэдняга склікання, асаблівa дэпутаты Марэк Аст, Дарота Арцішэўская-Мялеўчык і Юзэфа Грынкевіч (мы згадвалі пра гэта калісьці ў «Ніве», а поўныя справаздачы з дэбатаў можна знайсці на вэб-сайтах Сейма). Тады ні адзін з дэпутатаў-заяўнікаў, ні любы з прадстаўнікоў урада не змог даць канкрэтных разлікаў — наступстваў увядзення паправак ва ўсёй яго паўнаце. Гэтыя сумненні былі праігнараваны. Толькі прадстаўлены былі сумы, якія тады апынуліся ў абгрунтаванні папраўкі да праекта: «5000 злотых у год для дзяржаўнага бюджэту ад прапанаванага ўвядзення квот для прадстаўнікоў нацыянальных і этнічных меншасцей і суполак, якія выкарыстоўваюць рэгіянальную мову, удзельнічаючых у працы Сумеснай камісіі ўрада і нацыянальных і этнічных меншасцей, а таксама за кошт пашырэння спісу асоб, якія маюць права атрымаць належную суму для ўдзелу ў працы Сумеснай камісіі экспертаў, прадстаўленых сустаршынямі камісіі» і «10 000 злотых у год для бюджэту органаў мясцовага самакіравання ў адпаведнасці з прапанаванымі зменамі, прадугледжваючымі гэтае пашырэнне на паветы магчымасці выкарыстання моў нацыянальных і этнічных меншасцей і рэгіянальнай мовы як дапаможных моў, а таксама ў сувязі з увядзеннем магчымасці выкарыстання двухмоўных бланкаў і звароту да арганізацый нацыянальных і этнічных меншасцей з заявамі на дзвюх мовах (выдаткі будзе пакрывацца выключна адзінкай мясцовага тэрытарыяльнага самаўрада, зацікаўленай увядзеннем дапаможнай мовы)».

Рашэнне прэзідэнта праз тры дні пасля яго апублікавання і праз чатыры дні пасля выбараў знайшло яго катэгарычных праціўнікаў. Здзіўленне і абурэнне на спецыяльна скліканай прэс-канферэнцыі выказалі старшыня парламенцкай камісіі па замежных справах, кіраўнік ваяводскіх структур Грамадзянскай платформы Роберт Тышкевіч і новаабраны дэпутат з шэрагаў гэтай партыі (тое, што далучыўся да ГП аказалася падчас канферэнцыі) Тамаш Цімашэвіч. Асабіста дэпутат Тышкевіч не меў нічога агульнага з падрыхтоўкай паправак да закона, не быў членам парламенцкай камісіі нацыянальных і этнічных меншасцей, якой група дэпутатаў вынесла папраўкі на абмеркаванне. Як дэпутат папярэдняга склікання выказваў ён думку, што меншасці не маюцца дрэнна, маючы на ўвазе беларускую і фінансаванне мерапрыемстваў яе арганізацыямі, у тым ліку (на самой справе яна рэзка пагоршылася) і фінансавае становішча «Нівы» ў апошнія гады. Падчас прэс-канферэнцыі адносна прэзідэнцкага вета ён абвясціў:

— Гэта першае парушанае абяцанне прэзідэнта Дуды, дадзенае этнічным меншасцям, што мы прымаем вельмі крытычна і вельмі адмоўна. Мы гэтым ашарашаны.

Дэпутат Тамаш Цімашэвіч, спасылаючыся на словы прэзідэнта Дуды, сказаныя падчас апошняга свята Праабражэння Гасподняга на Святой Гары Грабарцы, дзе — як сказаў дэпутат Цімашэвіч — прэзідэнт слаў «абяцанні гіганцкай падтрымкі і клопату пра інтарэсы меншасцей». Без спасылкі на канкрэтныя выказванні, заявіў:

— Гэтае рашэнне (вета — М. Х.) выклікае падазронасць арганізацый, суполак меншасцей адносна да яго (прэзідэнта — М. Х.) намераў. Самі гэта апісалі як сімвалічны жэст з адмоўнымі канатацыямі.

Затым перайшоў да запэўнення:

— ГП заўсёды для кожнай з падляшскіх супольнасцей (меншасных — М. Х.) была адкрыта на супрацоўніцтва на працягу апошніх васьмі гадоў.

Дэпутат Тышкевіч дадаў:

— Пачынаем новае скліканне з гэтай прэс-канферэнцыі, якая мае трывожны тон. Прэзідэнт РП наклаў вета на закон, прыняты парламентам, доўгачаканы нацыянальнымі меншасцямі (...). Я думаю, што за апошнія восем гадоў, магчыма, не было фееверкаў, але меншасці карысталіся свабодамі, маглі разлічваць на дзяржаўную падтрымку паводле сваёй актыўнасці.

Неўзабаве, калі «Ніва» спыталася ў яго пра будучыню ў новым Сейме Камісіі нацыянальных і этнічных меншасцей, заявіў:

— Камісія нацыянальных меншасцей для дэпутатаў ад ГП заўсёды была вельмі важнай. Мы будзем імкнуцца, каб па меншай меры адзін з нас (ён або дэпутат Цімашэвіч, паказваючы, у канчатковым рахунку, на апошняга — М. Х.) быў у камісіі, таму што гэта абсалютна важна для выканання ролі дэпутата на Падляшшы.

Папраўка закона, падрыхтаваная групай дэпутатаў, прайшла заканадаўчую працэдуру ў спешцы. Нават сама маршалак Сейма Малгажата Кідава-Блонская яшчэ ў канцы ліпеня, пасля выбару ў траўні Анджэя Дуды прэзідэнтам РП, у размове з «Нівай» была ўпэўнена, што не ўдасца навелізаваць закон да канца склікання. Канчатковa працы над законам у Сейме і Сенаце скончыліся на апошніх пасяджэннях сёмага склікання пад уплывам умяшання, сярод іншага, былога старшыні парламенцкай камісіі па меншасцях Міронa Сыча, які спаслаўся ў гэтых адносінах на абяцанні, зробленыя ГП, што папраўкі будуць прыняты. Цяпер дэпутат Тышкевіч пераконваў падчас прэс-канферэнцыі:

— Я чакаў ад прэзідэнта, што будзе вышэй партыйных пазіцый і поглядаў, аднак вета абазначае, што затрымаўся з падтрымкай пазіцыі адной партыі, якая ў працэсе працы над законам была ў рашучай меншасці. Прэзідэнт Дуда мала што зрабіў непрыхільны жэст, непрыязны ў адносінах да меншасцей, але таксама паказаў, што з'яўляецца партыйным прэзідэнтам (...). Пану прэзідэнту не хапіла адвагі прыняць рашэнне насуперак рашэнню сваёй партыі.

Тамаш Цімашэвіч:

— Папраўкай у закон могуць пакарыстацца толькі чатыры паветы ў Польшчы, у тым ліку два ў нашым ваяводстве, тады якім цудам гэтыя кошты могуць быць высокімі. Тым больш выказваем здзіўленне ад такога рашэння.

У адным з шэрагу запісаў, хоць шматлікіх касметычных, ахапленне магчымасцю выкарыстання мовы меншасці ў якасці дапаможнай мовы мела датычыць Гайнаўскага (беларусы), Сейненскага (літоўцы) і двух кашубскіх паветаў.

— Калі ў адносінах да закона наступіць прынцып дыскантынуацыі — спынення (неабходнасць пачаць заканадаўчую працэдуру ад пачатку — М. Х.) і патрэбная будзе ў дачыненні да яго новая заканадаўчая ініцыятыва, дык сумесна з Томкам, напэўна, у вымярэнні парламенцкай прапановы будзем з такой ініцыятывай выходзіць, — заявіў дэпутат Тышкевіч.

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

# Ад двара ў Бобры застаўся не толькі ўспамін

Школа ў Новым Двары атрымала грант на праект, які тычыцца маёнтка сям'і Тамашэўскіх з Бобры-Вялікай. Маладыя людзі, якімі кіруе настаўніца польскай мовы Ірэна Клеменя, хацелі б, між іншым, наладзіць выстаўку, прысвечаную сядзібнаму комплексу ў Бобры-Вялікай. Ёсць таксама і іншыя ідэі. Маюць яны на мэце наблізіць гісторыю тагачаснага двара і людзей, якія калісьці яго наведвалі.

У праект уключыліся два класы гімназіі — каля сарака чалавек.

— Ажыццяўленне праекта ўжо пачалося. Адным з яго элементаў былі менавіта сённяшнія заняткі, — кажа Ірэна Клеменя.

У мяне была магчымасць удзельнічаць у мультымедыйных майстар-класах у школе ў Новым Двары. Маладым людзям былі прэзентаваны прыклады як з дапамогай простых відэапраграм ствараць відэакліпы. Вучні плануюць апытанні людзей на тэму гісторыі маёнтка, у тым ліку найстарэйшых жыхароў Новага Двара. Пазней яны хочуць апублікаваць сабраныя матэрыялы ў інтэрнэце.

— Канчатковым эфектам праекта будзе выстаўка. Хочам наладзіць паездку ў Музей вёскі ў Асовічы, што пад Беластокам, куды быў перавезены бобраўскі двор. Плануем сарганізаваць навадворскую бяседу, на якую запросім


Ірэна Клеменя ў рэгіянальным куточку

гісторыкаў. Пастараемся таксама, каб наведаў нас сваяк Ванды Мілашэўскай, які з'яўляецца супрацоўнікам Беластоцкага політэхнічнага інстытута, — кажа Ірэна Клеменя.

Польская пісьменніца Ванда Мілашэўская кожнае лета праводзіла ў двары ў Бобры-Вялікай. Яна — аўтарка кніг пра жыццё мясцовага дваранства. Некаторыя кнігі былі напісаны ў бобраўскім двары, а дзеянне аднаго з яе раманаў адбываецца якраз у двары і яго ваколіцах. Гэта апублікаваны ў 1937 годзе раман „Święty wiąz”, ілюстраваны фотаздымкамі Яна Булгака. Загаловак рамана выводзіцца ад магутнага вяза, званага святым, які стаяў пасярэдзіне поля каля двара, — чытаю інфармацыю на сцяне школьнага рэгіянальнага куточка, у якім сабраны гістарычныя экспанаты.

Удзельнікі таксама хочуць стварыць відэазапіс працы над праектам.

— Вельмі хацелася б стварыць мультытэку аб нашым рэгіёне, — кажа каардынатарка праекта Ірэна Клеменя. — Частка грошай будзе выкарыстана на падрыхтоўку сцяны для выстаўкі ў нашай школе. Плануем яшчэ конкурс для дзяцей на макет бобраўскага двара. Калі ўсё атрымаецца, зладзім выстаўку макетаў і ўзнагародзім іх стваральнікаў.

Будынак двара ў Бобры-Вялікай пасля Другой сусветнай вайны быў перавезены ў Музей вёскі ў Асовічах пад Беластокам. Гісторыя гэтага месца пачалася ў пятнаццатым стагоддзі, у эпоху каланізацыі лясоў, распалажаных на захад ад Гродна. У пазнейшым часе двор наведвалі людзі культуры. Быў там гісторык Тадэвуш Корзан, канцэртаваў Ігнацы Ян Падарэўскі, маляваў пейзажы Ян Станіслаўскі. Апошнім уладальнікам сядзібы ў Бобры-Вялікай быў Тадэвуш Тамашэўскі, які памёр у 1977 годзе ў Шпратаве.

Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)

www.e-zorka.pl

зорка

для дзяцей і моладзі


# Гайнаўка

## заўсёды будзе ў маім сэрцы



**Іво Цыунчык сам навучыўся гаварыць па-свойму. Хацеў размаўляць як яго дзед Аляксандр і бабуля Лідзія Леўчукі з Гайнаўкі. У хаце дзядулі правёў ён першыя гады жыцця. Ад іх навучыўся любові да людзей, царквы і прыроды.**

Сваё захапленне праявіў у вершы «Гайнаўка». Яго твор, напісаны на хатняй мове, атрымаў спецыяльную ўзнагароду ў XI выпуску Ваяводскага конкурсу «Мой горад і рэгіён у Еўрасаюзе». Атрымалася так:

### *Hajnauka*

*Hlanuw u akno i zobaczyw*
*Cudouny Lies — Bieławieżskuju Puszczu.*
*Wana mienie oczarowała.*

*Hajnauka, heta maja rodnaja ziemielka.*
*Tut ja naradziusia.*
*Tu żywie maja babula i mój dzied.*
*Tut żyła moja mama.*

*W hetom horodzie stojat try cerkwy.*
*Adna z nich samaja pryhożaja — Sabor Swiatoj Trojcy.*
*W toj cerkwi ja nauczawsia prysłużywać.*

*Tut stawiw swojie perszy kroki.*
*Perszy raz skazaw słowo mama.*
*Od babuli uczuw perszu molitwu*
*I pomniu jaje do hetoho czasu.*

*Moj rodny horod jaki ty mnie miły.*
*Zabyć ciabie nie maju siły.*
*Nikoli nie zabudu mój horod.*
*Hajnouka — ona zausiody budzie u mojom sercy.*



Іво Цыунчык і Яўгенія Петрышк, настаўніца польскай мовы ў ПШ № 12 у Беластоку

Да конкурсу падрыхтавала яго **Яўгенія Петрышк**, настаўніца польскай мовы ў ПШ № 12 у Беластоку. У школе няма ўрокаў беларускай мовы. Іво аднак ведаў, што яго дзедка з бабуляй не размаўляюць па-польску, а толькі на сваёй мове, па-беларуску. Што іх сям'я выводзіцца з пушчанскай Міхнаўкі, што ў Нараўчанскай гміне. Таму нараўчанская гаворка гучыць у яго вершы. Яна найдаражэйшая, як дзядуля з бабуляй і мама.

— А як пачалася Твая сувязь з царквой? — пытаем у хлапца.

— Я раскажу такую гісторыю, — пачаў Іво. — Напярэдадні свята Праведнай Ганны мы паехалі ў Стары-Корнін. Мне было шэсць гадоў. І калі ўсе свяшчэннікі з мітрапалітам выйшлі на ліцію, то я стаяў і маліўся. А мітрапаліт глядзеў на мяне. Пасля, калі ён ішоў у алтар, узяў мяне за руку і сказаў: „Ходзь, ходзь, не бойся". Мітрапаліт завёў мяне ў алтар. І з гэтага моманту я пачаў прыслужваць у царкве.

Іво Цыунчык зараз гімназіст-выдатнік. Ён таксама старэйшы гарцэр, прыслужнік у беластоцкай царкве Іаана Багаслова. У пачатковай школе сябры абралі яго старшынёй школьнага самаўрада.

— А Твае любімыя прадметы?.

— Рэлігія, польская і руская мовы.

Пытаю, кім хоча стаць у жыцці.

— Спачатку хачу быць манахам, — чуем у адказ, — а пасля епіскапам...

— А што Ты хацеў бы змяніць, калі станеш ужо важным епіскапам?

— Хачу быць аскетам, як Іоў Пачаеўскі, мой духовы патрон. Хачу служыць Богу і людзям.

**Фота і тэкст Ганны КАНДРАЦЮК**

Міра ЛУКША

## АСІНА

Ах ты, асіна звычайная,
тополя дрыжачая,
трапечашся ты адчайна,
правінілася, няйначай?..
Збіраеш у сябе самую
энергію чалавечую,
але хай ён не сумуе,
бо ад нечысці яго забяспечыш.
Галіны, дошкі і завостраны кол —
Перунова паліца
пільнавалі наш верх і дол,
каб благому
не магло прыдарыцца.
На Юр'я гаспадыня свая
ў дзверы ўтыкала галіну
да аборы і да хлява,
каб статак жывёлы не згінуў.
Калі ў стайню ўводзіць каня,
хай голле пройдзе ў парогу.
А асінавая барана
хай заразе адрэжа дарогу.
Ты, асіна, жывеш сто гадоў,
сто гадоў пражыве і драўніна,
бо хоць мяккая ты, пагатоў
не гнієш, не псуешся, не гнієш...
Будзе ўраджай ячменю
— на асіне пупышкі ў жменю,
а калі «завушніц» шмат
зерне аўсу як град.
Мёд з кветак асіны,
з пупышак прапаліс,
а запалка з драўніны
абагрэе ў нядолі.

## Вершы Віктара Шведа



### Хто вінаваты?

— Калі я, мой мілы Косцік,
Была ў тваім узросце
Дык рашала я задачы,
На выдатна, не іначай.

Замест каб вучыцца бойка,
Атрымоўваеш ты двойкі.
— Хіба паню дасканала
Матэматык навучала.

### Спрытная жанчына

Паліцыянт дагнаў
На вуліцы жанчыну.
Якраз праходзіла яна
Там, дзе не павінна.

— На „зебры" пераходзіць вам,
На „зебры", дарагая.
— На жэбры выбірайся сам,
Я пенсію ўжо маю.

# Нараўка — наш гонар!

Хто пераб’е ў амбіцыях Нараўку? Шчасце, выпадковасць, прыгожыя вочы — тут ні пры чым. Тут не прычаруеш рэчаіснасці, не ашукаеш. Бо тут аснова — паслядоўная навука і здольнасці. Мова пра прадметны конкурс па беларускай мове.

Нас пазітыўна шакіравала навіна, што да прадметнага конкурсу прыступіла ажно 25 вучняў. Калі ўлічыць, што беларускую мову вывучае 28 гімназістаў, дык гэтыя лічбы гавораць больш чым гавораць. Вядома таксама, што граматыкі не прысвоіш праз сон. Яе трэба вызубрыць. Пасядзець над кніжкай. Папрактыкавацца. Прачытаць літаратуру.

Сучасныя навучэнцы беларускай мовы (у сваёй масе) непісьменныя. Мы спыталі ў нараўчанскіх сяброў як гэта магчыма выставіць столькі ахвотных.

— Нам дапамагае канкурэнцыя з Міхаловам, — пажартавалі ў адказ.

А пра якую канкурэнцыю мова? Пакуль у Міхалове яшчэ не прыступалі да прадметнага конкурсу. Спаборніцтва вядзецца па лініі літаратурнай творчасці, якая асвятляецца ў «Зорцы». Менавіта вучнёўская творчасць — гэта вялікі стымул, каб самастойна вывучаць мову.


Гімназісты з настаўніцай Ганнай Кандрацюк


Намесніца дырэктара Ліля Тарасевіч

Калі хто з Міхалова апублікуе прыгожы верш, у Нараўцы не даруюць. Іх задача — напісаць яшчэ прыгажэй, ярчэй. Як штогод, многія вучні рыхтуюцца да Агульнапольскага конкурсу беларускай паэзіі і прозы «Дэбют». Ці ўсе разлічваюць на прызы? Нашы сябры ўжо даўно зразумелі, што больш цікавае ўдзельніцтва. Яны таксама ведаюць як іх літаратурныя спробы і поспехі па беларускай мове цешаць старэйшых людзей. Кожны год найбольш заслужаны лідар атрымлівае ў падарунку ноўтбук. Фундатарам з’яўляецца гмінны радны Лявон Хлябіч. Таксама сваю прыватную ўзнагароду ў выглядзе ровара з прыбамбасамі назначае спадар Мірaслаў Кульбацкі. З прыемнасцю інфармуем, што ў мінулым годзе ноўтбук трапіў у рукі нашай Наталлі Васько (!).

Не менш спадабалася нам, што нараўчанскія хлопцы, якія вядуць радыёвузел, пускаюць у час перапынкаў шмат беларускіх песень!

— І гэта іх самастойны выбар, — адзначае з гонарам спадарыня дырэктар Ліля Тарасевіч.

**Зорка,**
**фота Ганны Кандрацюк**

Алівія КУЗЬМА
ПШ у Нараўцы

## Грыбы

**Дзядзька ішоў праз лес,**
**Шукаў грыбоў увесь час.**
**Тут баравік, там — махавік.**
**Дзядзька цэлы**
**кошык грыбоў наклаў**
**І дахаты забраў.**
**Дома іх абабраў**
**І на зіму прышыкаваў.**

Ізабела БАРОЎСКАЯ
ПШ у Нараўцы

## Хатка

**Стаіць у вёсцы**
**Старэнькая хатка.**
**Многа ўсяго яна прайшла**
**У сваім жыцці.**
**Многа чаго бачыла і чула.**
**Гэта гісторыя вёскі.**
**Нямы сведка...**

# УВАГА КОНКУРС! № 45-15

## Загадкі з роднай хаткі

**Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку” да 22 лістапада 2015 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

**Уцякае без аглядкі,**
**А сабачы брэх пачуе,**
**Дык душа —**
**Адразу ў пяткі.**
**З...**

**Бяжыць, бяжыць, бяжыць**
**і не спыняецца нідзе,**
**Бяжыць, бяжыць, бяжыць**
**І не стамляецца як усе.**
**Р...**

**Адказ на загадкі № 38-15: алень, сланечнік. Узнагароду, майку з лагатыпам Радыё Рацыя, выйграла Мартына Лукша з Нараўкі. Віншуем!**

# Польска-беларуская крыжаванка № 45-15

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 41:**

Плён, лоб, як, сарока, заўтра, зубр, рэ, жаба, збор, Ала, Анатоль. Пляж, лік, зала, зуб, сабака, лаўр, торт, бор, бал, Кароль, ява, эра.

Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі **Аня Радзіванюк**, **Рафал Новік**, **Караліна Кондрат** з Нараўкі, **Малгажата Галёнка**, **Вольга Мішчук**, **Наталля Ніканюк** з Арэшкава, **Конрад Казлоўскі**, **Дамініка Сікора** з Міхалова, **Іаанна Нікіцюк** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Kropka | Wieloryb | | Taśma | Marsz | | | | |
| | | | Ton | | Step | E-mail | | Aktyw |
| | Tablet | Portal | | | | | | |
| | Rodzaj | | | | | Tom | | |
| | | | | | | | La | |
| | Aktyw | | | Poły | | | | |
| | | | | | Miau | | | |

№ 45 [08-11-2015]

# СПАСЫЛАЮЧЫСЯ НА ЗАБЫЦЦЁ (2)

**Несумненна, «Дзяды. Брэсцкая крэпасць» Паўла Пасіні, зрэалізаваныя ў Брэсцкім акадэмічным драматычным тэатры, якіх польская прэм'ера адбылася падчас Тэатральных канфрантацый у Любліне, не пакідаюць гледачоў абыякавымі. Ужо на пачатку спектакля — пасля пралога на фоне фота мануменальнага помніка з тэрыторыі Брэсцкай крэпасці — акцёры вядуць гледачоў за рукі да асноўнай тэатральнай прасторы, дзе іх пераносяць у свет гісторый, пахаваных у калектыўнай беларускай і польска-беларускай памяці і дзядоўскіх абрадаў з заклікannем духаў, не спазнаючых спакою — зваротам да сумленняў. Саўдзельнічаюць яны ў тэатральных рытуалах, пасаджаныя вакол цыркулярнай, рухаючайся сцэны, а за іх спінамі глядзяць на іх белыя маскі. У рэшце рэшт паддаюцца рытму паўтараных акцёрамі як мантра слоў: «Цёмна, людзі, сумна, людзі, што-та будзе, што-та будзе». Яны чакаюць выбуху, які можа прывесці да катарсісу. Але выбух не адбываецца.**



Як мы пісалі на мінулым тыдні, у беларускую адаптацыю Міцкевічавых «Дзядоў» Павел Пасіні ўплёў партызанскія гісторы па-руску з Другой сусветнай вайны, пачутыя на Палессі, ці аб халакосце — успаміны аб пацыфікацыі брэсцкага гета ў 1942 г. Асабліва моцна гучаць у прадстаўленні сцэны гвалту, пры ўдзеле сенатара (Сяргей Пяткевіч) час ад часу бязлітасна таптаўшага параскладваныя без ладу і перакладваныя на кожным кроку іншымі героямі мацэвы — габрэйскія надмагіллі. Бездапаможны Конрад (Вячаслаў Цыцкоўскі) спрабуе задаць тон здарэнням, падыгрываючы на пазбаўленым нагі раялі, а ягоная Вялікая Імправізацыя з'яўляецца выразам бездапаможнасці, якая канчаецца крыкам у пустэчу — беларускую пустэчу. Выклікае моцнае ўражанне сцэна экзарцызму. Гледачы ў напрузе могуць сачыць за дыялогам айца Пятра з дэманамі, путаючымі Конрада. Кругавая сцэна, час ад часу прыводжаная ў рух акцёрамі ўручную, з самага пачатку пакрыта была белай паперай, якую часам рвуць ногі акцёраў і якая выяўляе ў ходзе спектакля зямлю, якая хавае таямнічыя кнігі, і якой пах нясецца сярод аўдыторыі.

— Выкарыстоўваем інструменты, якія дае нам Міцкевіч. Тэатр з'яўляецца абрадам. Вось што важна, і што аб'ядноўвае людзей у Беларусі, гэта ўсведамленне супольнай зямлі. Надалей існуюць побач сябе розныя мовы і культуры. Грабемся ў гэтым спектаклі як у беларускай зямлі, — сказала пасля люблінскай прэм'еры аўтарка сцэнарыя Патрыцыя Даловы.

Як падкрэслілі ў гутарцы з «Нівай» акцёры брэсцкага тэатра, якія звыкліся з акадэмічнай акцёрскай школай і якія часцей іграюць па-руску, чым па-беларуску, праца над «Дзядамі. Брэсцкай крэпасцю» была для іх унікальным вопытам. Заслужаная артыстка Беларусі Тамара Ляўчук (маці студэнта Ролінсана):

— Праца з Паўлам Пасіні была для нас новым вопытам. Я прыналежу ўжо да немаладога акцёрскага пакалення. Я працавала ў асноўным у спектаклях, у якіх форма не так важная, а больш сам змест. Тут мы маем справу з цікавым сінтэзам формы і зместу. Уся наша каманда працавала на высокай хуткасці. Гэта для нас вельмі важны вопыт і варты ў будучыні працягу ў нашым тэатры. У Беларусі, на жаль, уся абраднасць звязаная з дзядамі знікла, проста маем дзень памяці аб памерлых. Сам спектакль прымушае да одуму і адчування, таксама тых, хто ведае «Дзяды» Міцкевіча і тут сустракаецца са скарочанасцямі і заменамі чарговасці парадку, у якім яны былі напісаны.



Яна прызналася таксама:

— У нас, аднак, ёсць праблемы з іграннем на беларускай мове. Мы, акцёры брэсцкага тэатра, вядома, ведаем гэтую мову, але мала яе практыкуем. Усё ж, мы рускамоўны тэатр. Асабіста ў мяне ёсць некаторы досвед з ігрой па-беларуску, але я раней гаварыла на гэтай мове на сцэне прозай. Тут таксама ўсё складана, таму што мы павінны гаварыць вершам. На гэты спектакль у Брэсце прыходзяць людзі, якія ведаюць беларускую мову і думаюць. Гэта не ёсць спектакль для шырокай аўдыторыі. Не толькі таму, што ў прынцыпе ў аўдыторыі можа змясціцца іх няшмат.

Адна з другапланавых актрак у гэтым спектаклі Вольга Клімук:

— Для мяне гэта быў незвычайны вопыт, асабліва таму, што акцёры і гледачы практычна разам на сцэне, часам нават дакранаюцца адзін да аднаго. Мы рэпертуарны, вельмі традыцыйны тэатр. Незвычайным для нас было і тое, як такі вялікі твор можна перанесці на працягу дзвюх гадзін на сцэну. Незвычайнай была праца з рэжысёрам, які працаваў з намі праз эцюды, якія мы павінны былі падрыхтаваць на рэпетыцыях. Мы мусілі спачатку адкрыцца як людзі, а толькі пасля выявіць свой акцёрскі патэнцыял. Працэс стварэння спектакля быў вельмі цікавы, і ніколі мы не атрымалі так шмат як акцёры ад рэжысёра, колькі ад Паўла Пасіні.

Звярнула ўвагу:

— Таксама самі Міцкевічавы «Дзяды» былі для нас адкрыццём. Калі ў нашых школах абмяркоўваецца гэты твор, дык гэта толькі невялікія фрагменты. Усяго твора ніхто з нашай каманды не ведаў. Вельмі цікавая была сустрэча ў час падрыхтоўкі відовішча з перакладчыкам Сержам Мінскевічам, які распавёў нам пра мову Браніслава Тарашкевіча, пра якога мы ведалі мала. Калі мы ўзялі Сержаў пераклад «Дзядоў», адчувалі сябе як першакласнікі, якія не разумеюць роднай мовы. Мы адкрылі ўласную мову. Брэст, у асноўным, рускамоўны, не так як Мінск ці Гродна, таму мы іграем у асноўным па-руску.

Праекты сцэнаграфіі і касцюмаў для прадстаўлення падрыхтавала Элена Лола Лолі (Алена Ляшчынская — прыватна жонка рэжысёра Тамаша Ляшчынскага, якая ад гадоў пражывае ў Польшчы, родам з Расіі, таксама актрыса):

— Калі мы прыехалі ў Брэст, наш праект трохі адрозніваўся. На жаль, аказалася на месцы, што на працягу трохі больш за месяц ён немагчымы ў гэтай версіі для рэалізацыі. Нечакана, аднак, з'явіліся вакол нас людзі, якія нам паказалі, што скрывае Брэст. Я рабіла фатаграфічную дакументацыю. Мы думалі, што можа быць зроблена хутка і, што будзе звязана з гэтым месцам — Брэстам. Гэтыя надмагіллі на сцэне, напрыклад, узяліся з таго, што адзін з нашых гідаў расказаў нам, што мноства іх ляжыць на тэрыторыі Брэсцкай крэпасці. Знішчаюцца. Ніхто не звяртае на іх ніякай увагі. Я спрабавала ўбачыць іх на свае вочы, але сцены, якія адгароджваюць гэтае месца ў крэпасці, з'яўляюцца занадта высокімі. У працы над спектаклем самай галоўнай для нас была праца, звязаная з Брэсцкай зямлёй, тамашняй гісторыяй і брэсцкімі «прывідамі».

Пасля выхаду прэм'ернага спектакля ў Любліне асабліва маладыя людзі адчувалі сябе крыху разгубленымі. Мы паразмаўлялі пасля спектакля з групай люблінскіх студэнтаў:

— Я не ведаю беларускай мовы, а тэкст быў настолькі парэзаны, што часам было цяжка зразумець. Часам цяжка было зразумець выкарыстаны сімвалізм, напрыклад, хто быў гэтай жанчынай, да якой гаворыць Конрад Вялікую Імправізацыю.

— Я таксама не ведаю беларускай мовы, але пасля гадзіны ўвайшла ў рытм мовы і мне здавалася, што разумею амаль кожнае слова.

— Я перажыла вельмі моцна сцэну, калі быў збіты Ксёндз, ці сцэну згвалтавання адной з дзяўчын, якую прывялі на Баль у Сенатара.

— Чараўніцтва ўражвае, і гэтыя духі-акцёры, што прахаджваюцца за спінамі гледачоў. Але найбольш апошняя частка з калектыўным, як у трансе, паўтараннем акцёрамі на працягу многіх хвілін «цёмна, людзі...». І вельмі сімвалічны Сляпы (акцёр Алег Бузук — М. Х.), які вядзе народ па шляху чалавечнасці.

У размове з «Нівай» Павел Пасіні падкрэсліў (шырокія фрагменты з гэтага інтэрв'ю апублікаваны ў папярэдняй «Ніве»):

— Ёсць шмат прабелаў у нашай супольнай памяці, у той час як яна па-ранейшаму мае шмат супольных прастораў.

Цалкам магчыма, што «Дзяды. Брэсцкая крэпасць» будуць паказаны ў Беластоку. Павел Пасіні зацікаўлены, каб і падляшскія беларусы са сваёй гісторыяй і памяццю аб ёй сутыкнуліся з іх пасылам.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

# Высяленне з пушчы (2)

Агульна вядома, што нацысцкая ідэалогія прадбачвала расавую ачыстку чалавечага роду — мела астацца толькі „чыстая" арыйская раса. Менш затое вядома, што нацысты прадбачылі таксама расавую „праўку" і звярынага свету, „знявечаную" ў выніку прыручэння жывёл для свойскіх патрэб, у выніку чаго тыя жывёлы страцілі свае першапачатковыя прыметы: у тым ліку сілу і дзікасць характару. Нацыстам мроілася адраджэнне асабліва тых жывёл, якія ўзгадваліся ў звязаных з германскімі плямёнамі фантастычных легендах. Вось на такія „расава чыстыя" дзікія жывёлы меў палявацъ галоўны „арыйскі" паляўнічы Герман Герынг. Месцам, дзе мелі б адбывацца гэтыя намроеныя падзеі, мела стаць Белавежская пушча, дзе захавалася тое прыроднае асяроддзе, якое ўяўлялася „чыста арыйскім"; яго толькі трэба было ачысціць з неарыйскага „забруджання".

Люба Раманчук: „Нас, Масева, вывезлі 26 ліпеня, у суботу. Тата з дзядзькам Федзем пайшлі акурат у Куты, як гэта ў нас называлася, касіць. А тут ужо цэлая вёска немцаў наехала; нехта паведаміў нашых мужчын пра гэта і яны з'явіліся. У нас жыло дзве сям'і, то прызначылі нам дзве фуры і дзве каровы можна было забраць. Але маму, бабу і мяне то павезлі самаходамі, а тата з дзядзькам асталіся пры фурах. Але што ж узяць на такі жалезнячок? Шмат чаго асталося, бо ж, напрыклад, зімовы абутак на гарышчы ў той час, улетку, быў. Мама ці баба расчынілі хлеб і не спяклі; так ён у дзежцы і астаўся. Там, дзе цяпер клуб, стаялі самаходы, нас на іх пагрузілі і на той гасцінец, што вёў на Ціхаволю, павезлі. Як нас завезлі, то можа яшчэ два дні мінула, пакуль і нашы мужчыны прыехалі, бо ж з прычэпленымі каровамі хутка не паедзеш. Нас вывезлі ў вёску Салані, што каля Поразава; там яшчэ людзі не касілі. Астаўся свой конь, які тата нядаўна купіў, бо ранейшы быў натурлівы; каб раней ведалі, што будуць вывозіць, то мо некаму аддалі б, сваякам, напрыклад, у Ахрымах. І свінні асталіся, такія харошыя ў нас тады былі. Але кросны на фуру ўзвалілі. Калі б хто ведаў... А то ж амаль цэлы дабытак наш прапаў. Конь астаўся, і збожжа, і наша хата новая была, на дзве палавіны; яшчэ адна палавіна не была выканчана. І ўсе будынкі. Пакуль, палонныя бадай, збожжа з поля не сабралі. І з Саланёў было відаць чырвонае зарыва, як нашы вёскі гарэлі; папалілі ўсё. Але адкуль жа людзі мелі ведаць, што іх чакае, калі, напрыклад, нават радыёпрыёмнікаў не было?".

Мікалай Раманчук: „У нас, у Ціхаволі, былі толькі два радыёпрыёмнікі: адзін у бацюшкі, а другі ў Кісялеўскага ў склепе, дзе меў манопаль і гарэлкаю гандляваў. І Ціхаволю спалілі. Школа там была новая: пры Польшчы сталі яе ставіць, а пры саветах выканчылі; прыгожая школа была, драўляная, з тоўстых дыляў. Але школы не спалілі — немцы прадалі яе людзям з Міхалова. А пасля вайны зноў школу ў Ціхаволі на тым самім падмурку паставілі, толькі можа крыху ніжэйшую чым да вайны была".

Люба Раманчук: „Я помню, як да вайны мы з бабай у царкву хадзілі, то яшчэ школы не было і мы сядалі на тым падмурку і баба туфлі накладала, што ў руках заносіла. То ж шэсць вёрст трэба было з Масева ў Ціхаволю ісці...

Завезлі нас, а тыя людзі ў Саланях злуюць, што павыпускалі мы кароў на іхнія сенажаці, якія яны мелі восць касіць. Там папрыходзілі людзі, бо загадалі ім немцы, каб кожны з іх узяў да сябе сям'ю. Па нас прыйшла адна баба, бадай з сынам, і нас забрала. А ў той хаце адно салома, ніякай пасцелі няма, тая салома можа толькі якоюсь латаю прыкрыта. А за хатаю высілася вялікая гара, а на той гары нічога не было, то мы, дзеці, усё на тую горку лазілі. У тае нашае гаспадыні была сукенка з купчага матэрыялу, але латаная якімся мяшком. Мама з бабай пайшлі ў школу, што была ў прыватным будынку, разглянуцца за месцам. Мо тыдзень там жылі, пакуль выжалі гаспадару жыта. А жыта было ў яго многа і трэба было сярпамі жаць.

Пасля вайны мы з Колевай браціхай туды ездзілі, але заехалі толькі ў Поразава, хацелі фіранкі купіць. Акурат былі каталіцкія Грамніцы, але крама была закрыта і мы не купілі. А з касцёла столькі народу вываліла, што ў нас і ў царкве толькі не збіраецца.

Тады тата з дзядзькам пайшлі па коней, зайшлі ў Боўтрыкі — там жыў мамін дваюрадны брат. І той сваяк нас забраў да сябе; а дзядзька Федзя пайшоў у Ляўкова. А пасля знайшоў сабе ўдаву ў Кухмах. І ў тае ўдавы было двое дзяцей, а яе першы муж быў надта майстравіты, такую харошую хату быў паставіў. І ў той хаце ўсё было, мэбля была. Ён памёр, асталіся дзве дачушкі. І там быў яшчэ дзядзіны тае бацька, які ўзяў сабе бабу з іншае вёскі. І тая баба стала там камандаваць усім. Заколюць тучніка, то тая баба сваім дзецям трэцюю частку аддавала, то збожжа. Яна першай выкапала сваю бульбу і ў склеп высыпала. Пасля тая наша дзядзіна тую мачашыну бульбу выбрала і давай сваю сыпаць. Яны пасварыліся і тая мачаха пайшла даклала немцам, што дзядзіна з дзядзькам партызанаў прымаюць. І нашых вывезлі ў лагер, а пасля вызвалення дзядзіна вярталася, але загінула ад асколка ў час бамбёжкі. Ейных дзетак забрала яе сястра, якая пасля вайны выехала ў СССР і тыя дзеці там паўмiралі. Столькі нарабілася тады бяды: зойдзеш у царкву, а людзі ўсё плачуць і плачуць, бо то той не вярнуўся, і той, і той...

А мы пажылі крыху ў Боўтрыках, а пасля перабраліся ў Ахрымы, да маміных бацькоў. А пасля, калі Ахрымы таксама выгналі ў Ляўкова, то мы знайшлі хату ў Тайніцы-Дольнай і там жылі з сям'ёй мамінай сястры, якую таксама выгналі з Янова, што каля Нараўкі. Там мы разам жылі, разам варылі. Там добра нам было: дзед з Ахрымоў дровы нам прывозіў. А пасля вайны пераехалі ў Ахрымы, калі ўжо нашы сямейнікі туды вярнуліся. Але пакуль вайна, то ў Тайніцы солтыс вызначыў нашу сям'ю на работы ў Германію; бо ж сваіх не вызначаў, толькі ў першую чаргу высяленцаў. І тата кажа: „То я сам паеду, то можа вярнуся, а то ж з дзяцьмі як мы вернемся?". І так паехаў тата, трапіў да нейкага немца, у якога лесу было многа. Рабіў там тата ў лесе, але і кухарам там быў таксама — там было многа рабочых, французаў і немцаў. І пасылкамі, якія сем'і прысылалі французам, французы дзяліліся, то тата ўсё нам слаў: то цукеркі, то нейкія нямецкія лахманы. Але то была вопратка з добрага матэрыялу, з сукна, не такое, што цяпер штучнае з Кітая. Калі прышлюць нейкі летнік ці нагавіцы, то мама зараз мне іх перашывалі: то спаднічку, то жакецік мне пашыюць. Сваёй швейнай машыны не было, але ў Тайніцы жыла жанчына з Масева, сястра Вані Буравага, які пасля вайны быў якімсь начальнікам у Хімічнай у Гайнаўцы. У яе была машына, то мама да яе хадзіла. Добрая жанчына была, усё гаварыла, каб смела да яе прыходзіць; і каровы нашы ў яе стаялі. У школу я адтуль хіба адну зіму ў Юшкаў Груд хадзіла, а пасля ў Рыбакі адну зіму пахадзіла; такая мая школа была".

Мікалай Раманчук: „Той Ваня Бура быў з 1918 года і яго саветы ўзялі ў армію, але на фронт не далі, бо апасаліся, што „западнікі" будуць у палон немцам здавацца. Яго ў вайну ўзялі недзе пад Архангельск, ён адтуль не ўспеў у армію Андэрса, але ўдалося ў „касцюшкоўскае" войска; і ён такім чынам вярнуўся дахаты".

Люба Раманчук: „Пасля вайны, калі будынкі з Ляўкова перавезлі зноў у Ахрымы, і мы ў Ахрымы з Тайніцы вярнуліся. І ў Ахрымах нам не сядзелася. Хаця тата наш з вайны не вярнуўся, усё ж такі хацелася на сваё, у Масева. Мама спытала маіх брацікаў: „Што вы, хлопцы, хочаце: ці каб кароўка ў нас была, ці свая хата?". А яны абодва ў адзін голас: „Хочам сваю хату!". Бо ж хлопцы пазалазяць на печ, іх двух і двух хатніх; спярша гуляюць дружна, а пасля пасварацца. І тыя хатнія, дзядзькавы сыны, зараз на нашых: „А чаго вы тут? Едзьце ў Тайніцу!". У Ахрымах у адной хаце жылі чатыры сям'і — цесна было. І сталі раз'язджацца — яноўскія ў Янова паехалі. Бельскія ў Галубах хату прадавалі, то мы яе за карову памянялі. Карову ўжо яму, Бельскаму, далі, і свінчо, і колькісь жыта. Карова ацялілася, ён цяля сабе пакідае, а карову ўжо нам адганяе і не хоча хаты аддаваць, бо знайшліся іншыя, што яму больш прапанавалі. А дзядзька кажа: „Дамова ў нас напісана, што ты да такога і такога дня маеш з тае хаты выбрацца. Ты, Бельскі, будзеш яшчэ спаць, а мы ўжо кулікі будзем з хаты здзіраць"; дзядзька ўжо людзей у Ахрымах згадзіў. І тады той уступіў, аддаў хату. Перавезлі тую хату ў Масева і паставілі. І поле дзядзька ўзараў нам. Але нічога не было: ні плота, ні хлява. Але рады былі, што ўжо ў сваёй хаце. А хлеўчыка пасля з ручкоў паставілі. Хадзіла я з мамай у лес, там ручкі гатовілі, і ад дзядзькі з Ахрымоў каня прыводзіла, прывозілі мы тыя ручкі і так хлеўчык паставілі. А як замуж я выходзіла, то дзядзькі мае мяне авечкамі абдорылі".

(працяг будзе)

Запісаў Аляксандр ВЯРБІЦКІ



■ Вучні школы ў Рыбаках, што каля Бандароў, у гады нямецкай акупацыі, надпіс на дошцы на беларускай мове

Фота з асабістага архіва Любы РАМАНЧУК



■ Міхал Вярбіцкі, бацька Любы Раманчук (стаіць у шапцы) ва Усходняй Прусіі разам з французскімі палоннымі і нямецкімі рабочымі

1 ☞працяг

# Віншуем АЛЕСЯ БАРСКАГА з 85-годдзем!

сцэрці ні выразнасці вобраза, ні свежасці пачуцця: „Яе вобраз не зблякнуў і не пацямнеў у маёй удзячнай памяці. Асабліва ў часе бяссонных начэй, а часта і ў снах бачу яе пры кудзелі, дзяжы, жорнах. Бачу незаменную, незабыўную і святую. Мучаніцу, якая пусціла мяне на вольны свет, надзяліўшы пэўнымі ўласцівасцямі, дзякуючы якім магу аддзяліць дабро ад зла”. Удзячнасць за дар жыцця пісьменнік ставіць поруч з узгадваннем маральнаэтычных норм, якія спавядала маці, якія прывіла дзецям.

* * *

У іншым аповедзе „Кулачка, вораг народа” вобраз маці высвечваецца з іншага боку. Гэта ўжо іншы час. Савецкая ўлада. Праз успрыняцце малога хлопчыка перадаюцца жах і неразуменне: што ж яны вытвараюць. Вывозяць сям'ю матчынае сястры. Імкненне дапамагчы ў бядзе заўсёды было характэрна вясковым жанчынам. Перадаць харчы — першае, што ў такія моманты робяць жанчыны. Горкае расчараванне чакала жанчыну, калі мусіла вяртацца дахаты з тою торбаю. Балючая крыўда ад нялюдскасці ўлады, якую чакалі, якую яе гаспадар сустракаў, „барыш паставіў”, ад несправядлівае абразы перажываецца і сынам. Асабліва глыбокую рану наносяць крыўдныя словы — „кулачка”, „вораг народа”, пагрозы і яе сям'ю, „паразітаў”, вывезці ў Сібір. І хоць аўтар на вялікай адлегласці ў часе ад тых падзей, ад таго маленькага хлопчыка, якім быў, ён здолеў пе-




радаць той даўні боль надзвычай яскрава: „А маці ўсё стаіць, усё глядзіць, усё чагосьці як бы чакае. У адной руцэ трымае торбу з сухарамі, а другая жылістая, сумная рука звісае ўздоўж цела. Час ад часу паднімае яе і верхняй часткай далоні выцірае слязу. Яе патрэсканыя босыя ступні моцна заглыбіліся ў вулічны, перамелены на попел пясок. І апранута „кулачка” і „вораг народа” не надзвычайна. На ёй белая кужэльная кашуля, зашпіленая пад шыяй на сіненькі гузічак, і саматканы зрэбны чорны парцяк, зашпілены збоку на палачку”. Партрэт жанчыны псіхалагічна дасканалы. Чаго варта толькі гэта — сумная рука. Не сумныя вочы ці твар, а рука, што заўсёды ў руху, заўсёды занятая працаю, а зараз, быццам мёртвая, бяссільна звісае. Жанчына жывая, але моцна забітая горам, быццам падбітая птушка. Выцірае слязу верхняй часткай далоні — і гэта даносіць тая даўняя дзіцячая памяць. Бо ніжняя частка шурпатая, закарэлая ад працы, бо пальцы патрэсканыя, бо і вымыць рукі перад тою нечаканаю весткаю хвіліны не мела.

І наогул, кабета ніяк не можа выйсці са стану здранцвення, адчужэння ад усяго, што навокал. Бо свет гэты, такі прыгожы, створаны, падараваны людзям на шчасце, нелюдзі здольныператварыць у пекла. Свет становіцца нямілым. Хлопчык разумее, што ён павінен нешта рабіць, неяк ратаваць матулю: „Я цягну маці за руку, і яна, як бы ў сне, моўчкі паварочваецца, і мы разам накіроўваемся ў бок хаты. А вакол сонечна, сонечна. А вакол зялёна, зялёна. А вакол звонка, звонка. А нам горка, горка”. І гэтая гаркота разліта не толькі ў сэрцы таго маленькага чалавека, але і ў сэрцы дарослага, аўтара, бо перажываецца ім заўсёды, калі згадвае сваю спакутаваную маці.

Пісьменнік вылучае з вясковае грамады і іншых надзвычай каларытных асоб. Калі чытаем назву аповеду „Аб народнай сіле”, традыцыйна ўяўляем, што аповед пойдзе пра нейкага незвычайнага асілка. А гераіняй з'яўляецца зусім звычайная вясковая кабета Альжуха Бура, найбяднейшая ў вёсцы. Звычайная толькі на першы погляд. Бо столькі было ў ёй вынослівасці, цягавітасці, а яшчэ нязломнае духоўнае сілы, што, пэўна, і трымала яе ў штотыднёвых 140-кіламетровых паходах, адплатаю за якія звычайна была ёй адна залатоўка. Алесь Барскі так наглядна, пераканаўча апавядае пра сваіх герояў, што ствараецца ўражанне ягонае непасрэднае прысутнасці поруч з імі. Быццам гэта ён разам з жанчынай праходзіў у бездараж і непагадзь той шлях, быццам ён сам пакутаваў з-за страты ажно трыццаці грошаў. Калі ён піша, што здараліся і драмы, то гэта і былі поўныя драматычнага напружання падзеі. Уменне суперажываць, праймацца горам іншых характарызуе асобу аўтара. Апроч таго, ён увесь час ставіць сябе на месца тае жанчыны і сумленна прызнае, як страцілася, змарнела сіла ягоных сучаснікаў. Ён, яшчэ малады і здаровы мужчына, не здольны і блізка зрабіць тое, што жанчына рабіла заўсёды.

* * *

Пісьменнік пакліканы для таго, каб засталіся такія імёны, каб захавалася памяць пра іх, бо яны таго вартыя. Заключныя радкі аповеду ўспрымаюцца як праўдзівы рэквіем: „Ужо некалькі гадоў не жыве Альжуха Бура. Часта думаю пра яе, як аб сімвале нярэдкай беларускай сілы, напорыстасці, вытрымкі. Няхай будзе ёй лёгкай тая зямля, па якой яна з такой лёгкасцю хадзіла”.

Наогул, кніга Алеся Барскага пра час і сябе ў ім — пра сваё ўзгадаванне, фармаванне светапогляду, жыццёвыя сцяжыны, на якіх сустракаў многіх людзей. А яшчэ пра Беларусь і сябе. Бо беларусацэнтрычны вектар, пра што гаварылася яшчэ ў прадмове, адзін з вызначальных.

❖ Ала ПЕТРУШКЕВІЧ




# http://histmuseum.by

Кожная краіна мае свой галоўны гістарычны музей. Гэта натуральна, бо перш за ўсё яго наяўнасць тычыцца прэстыжу дзяржавы, падкрэслівае тое, што яе мінулае — даўняе альбо нядаўняе — мае карані. Такая сітуацыя датычная і беларускай краіны. І там таксама ёсць галоўны гістарычны музей — Нацыянальны гістарычны музей Рэспублікі Беларусь.

Сайт музея, які месціцца па адрасе **http://histmuseum.by**, выглядае адносна сціпла, але прываблна. Уверсе цэлага выяўлення карцінкі-анонсы навін, якія змяняюцца. Ніжэй ідзе пералік выйсціў на рубрыкі, а пад ім датычная той ці іншай рубрыкі інфармацыя. Хоць першая з іх „Навіны”, для азнаямлення з музеем варта пачаць адразу з другой, што мае назву „Музей”.

„Нацыянальны гістарычны музей Рэспублікі Беларусь — адзін з найбольш папулярных музеяў краіны. У яго фондах захоўваецца самая вялікая музейная калекцыя ў Беларусі — гэта каля 400 тыс. адзінак захоўвання. У структуру Нацыянальнага гістарычнага музея таксама ўваходзяць 5 філіялаў — Музей гісторыі беларускага кіно, Музей сучаснай беларускай дзяржаўнасці, Дом-музей І з'езда РСДРП, Музей гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Беларусі, Музей прыроды і экалогіі Беларусі”, — распавядаецца ў падрубрыцы „Пра музей”. Там жа ходзіць пра тое, як музей называўся ад 1919 года — года яго стварэння. Таксама ў падрубрыцы месціцца фільм аб музеі, з інфармацыяй у якім, праўда, можна паспрачацца. У прыватнасці з тым, што Беларусь называюць скарбніцай Усходняй Еўропы. З тым імпэтам знішчэння нацыянальнай спадчыны і гістарычных артэфактаў, што адбывалася цягам XX стагоддзя, Беларусь калі і можна называць скарбніцай, то толькі страчанай.

Вельмі падрабязна апісваецца гісторыя музея ў аднайменнай падрубрыцы. Адтуль цікаўны наведвальнік сайта можа даведацца, што цяперашняя назва музея ўзнікла зусім нядаўна — у 2009 годзе. Але найбольш драматычны перыяд гісторыі музея варта прызнаць ваенны — 1941-1944 гадоў, калі яго фонды былі вывезены ў Германію.

Цяпер жа ў музеі маюцца тры вялікія калекцыі, якія падзелены на „Музейны збор”, „Фондавыя калекцыі” і „Музейную скарбніцу”. „Збор Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь — буйнейшы збор. На 2011 год ён налічвае звыш 370 тысяч адзінак музейных прадметаў, размеркаваных па асобных калекцыях, колькасць якіх складае звыш 40”, — гаворыцца ў падрубрыцы „Музейны збор”. Там жа адзначаецца, што штогод музейны збор папаўняецца 2-3 тысячамі адзінак новых паступленняў: гэта закупка, дарэнне, перадача ў музейны збор, матэрыялы, сабраныя падчас экспедыцый.

Пра тое, чым зараз жыве музей, можна прачытаць у рубрыцы „Выставы і мерапрыемствы”. Іх даволі многа, але адно з найбольш цікавых адбылося літаральна ў кастрычніку. Музей спрычыніўся да выдання першага беларускага дзіцячага гістарычнага часопіса, што мае назву „Музейныя вандроўкі”. Гэты часопіс пакуль існуе толькі ў электронным выглядзе, але хто ведае, можа ў недалёкім часе ён з'явіцца ў папяровым варыянце. Спадзеў на гэта дае рубрыка „Выдавецкая дзейнасць”, дзе распавядаецца пра выданні Нацыянальнага гістарычнага музея.

❖ Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

## Дата з календара

Спадчынны талент архітэктара

# 225 гадоў з дня нараджэння Караля Падчашынскага



Архітэктар і педагог Караль Падчашынскі нарадзіўся 7 лістапада 1790 г. у Жырмунах на Лідчыне (цяпер Воранаўскі раён). Яго бацька і дзед былі будаўнікамі, таму справа гэта была вядомай яму з дзяцінства. Дзед Павел добра рамантаваў палацы і храмы, за што быў заўважаны Радзівіламі і пастаўлены наглядчыкам за будаўнічымі працамі ў сваіх маёнтках. З часам ён стаў набліжаным да княжацкага двара, атрымаў пасаду падчашага. А ўжо сын Ян стаў княжацкім архітэктарам. За дасягненні Караль Станіслаў Радзівіл паспрыяў таму, каб у 1772 годзе Ян атрымаў шляхецкае званне. Так Ян стаў Падчашынскім — пад такім прозвішчам засталіся вядомымі і яго нашчадкі. У гонар свайго дабрадзея Ян назваў сына Каралем. Хлопец вучыўся ў Брэсце, у 1813 г. скончыў ліцэй у Крамянцы і паступіў у Віленскі ўніверсітэт. Да таго часу бацькі ўжо не было, і на дапамогу разлічваць не даводзілася. Таму Караль не толькі старанна пазнаваў навуку, але і сам зарабляў грошы — даваў урокі малявання і чарчэння.

Універсітэцкае кіраўніцтва заўважыла таленавітага і стараннага студэнта, і з 1814 г. яму прызначылі стыпендыю, а неўзабаве далі магчымасць навучацца ў Пецярбургу. У 1816 г. пасля сканчэння акадэміі мастацтваў, дзе за свае архітэктурныя кампазіцыі ён атрымаў два сярэбраныя медалі, Караль вярнуўся ў Вільню з мэтай выкладаць ва ўніверсітэце. Аднак маладога спецыяліста зноў пасылаюць на стажыроўку: спачатку ён вучыцца ў Парыжы, пазней накіроўваецца ў Італію. Пасля вяртання, з 1819 г. выкладае ў Віленскім універсітэце, пазней становіцца кіраўніком кафедры архітэктуры.

У 1838-1853 гг. Падчашынскі жыў у маёнтку пад Нясвіжам, пазней у Вільні і Варшаве.

Караль Падчашынскі быў прадстаўніком класіцызму. Ён актыўна займаўся (пісаў навуковыя трактаты, даследаванні, падручнікі для студэнтаў) і пасля 1832 года, калі Віленскі ўніверсітэт быў закрыты расійскай акупацыйнай уладай.

Зарэкамендаваў сябе і як выдатны практык. Пераважна ўвага яго была скіравана на Вільню; шэраг аб'ектаў было ўзведзеных у Расіі, Украіне, Польшчы. У Беларусі да гэтага часу захаваўся пабудаваны па яго праекце палацава-паркавы комплекс у Жылічах, які належаў Булгакам. Ён аўтар некалькіх праектаў навучальных устаноў, у тым ліку мураванага будынка кальвіністкай гімназіі ў Слуцку. Перабудаваў інтэр'ер Калоннай залы ў будынку Віленскага ўніверсітэта, стварыў інтэр'ер прафесарскай чытальнай залы. Пазней архітэктар Міхал Шульц яе рэканструяваў. Мадэрнізаваў таксама іншыя ўніверсітэцкія будынкі. Да найважнейшых прац Падчашынскага залічваюць рэканструкцыю касцёла св. Яна ў Вільні. Праектаваў ён сядзібу Міхала Балінскага ў Яшунах (цяпер у Літве), палацы ў Тускуленах і Жылічах (цяпер Кіраўскі раён), будынкі гімназій у Слуцку, Камянцы-Падольскім, Свіслачы, школу ў Бабруйску. Найбольш удалым яго творам лічыцца помнік позняга класіцызму евангеліцкарэфармацкая царква **(на фота)** у Вільні на вуліцы Завальнай (цяпер Pylimo). У савецкі час у гэтым будынку размяшчаўся кінатэатр „Хроніка”. Падчашынскі — аўтар першага ў Беларусі і Літве падручніка тэорыі архітэктуры „Асновы архітэктуры для акадэмічнай моладзі”, артыкулаў пра выкладанне архітэктуры, даглядання за садамі і паркамі.

Памёр творца 7 красавіка 1860 г. Пахаваны на могілках Росы ў Вільні. Магіла не захавалася.

❖ Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# У Чаромсе і Кузаве



1 лістапада, у дзень „Усіх святых”, у кузаўскай царкве св. Варвары правілася набажэнства, прысвечанае памяці памерлых. У святочнай літургіі, якую здзейсніў а. Рыгор Наўмовіч, прысутнічалі не толькі жыхары Кузавы і Рэпчычаў, але і шмат прыезджых з Чаромхі-Станцыі, якіх суродзічы пакояцца на кузаўскім могільніку. Да нядаўна ў Кузаўскім прыходзе абрад памінання памерлых адзначаўся ў Праваднуую нядзелю пасля Вялікадня. Зараз такі рытуал выконваецца і на „Усіх святых”.

Сёлета ў першы дзень лістапада надвор’е не паскупіла цеплыні і сонечных праменяў. Стаяла сапраўдная „залатая восень”. Перш-наперш, разам з дачкою Алінай ды ўнукамі Кінгай і Кшысем, якія прыехалі з Беластока, наведалі мы могільнік у Чаромсе-Станцыі — па-святочнаму прыбраны цэлы патанаў у шматколерных хрызантэмах. На магіле светлай памяці жонкі Анны паставілі мы букет бела-чырвоных кветак, запалілі лампадкі, згаварылі малітву. У роздумах і задуме ўспамінаю мінулыя будні, поспехі і няўдачы нашага сужонства. Гэта ўжо восьмы год як жыву ў адзіноцтве. Як хутка сцякае час. Нездарма ксёндз Твардоўскі напамінаў: „Спяшайма любіць людзей, яны так хутка адыходзяць”. З Чаромхі падаемся на кузаўскі могільнік, дзе пакояцца мае бацькі Хведар і Вольга.

Пад’езд да могілак быў шчыльна затканы машынамі. Ледзь знайшлі месца для стаянкі. Штораз пад’язджалі чарговыя аўтамабілі. Вернікі чакалі святара, каб памаліцца супольна над магіламі сваіх суродзічаў. Прысядаю на лавачцы побач помнікаў бацькам. Кшысь запальвае лампадкі. Неўзабаве пад’язджаюць святары а. Рыгор Наўмовіч і а. Павел Кучынскі з Вэрстока. Пачынаецца малітва. Хвіліна задумы і рэфлексіі. Сёлетні дзень „Усіх святых” для вернікаў чаромхаўскага і кузаўскага прыходаў быў нагодай для сямейных сустрэч і роздумаў пра мінулыя і цяперашнія будні.

Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА

## Праграма XXII Фестывалю беларускай бардаўскай ды аўтарскай песні „Бардаўская восень – 2015”

**6 лістапада 2015 (пятніца)**
**17.00 Бельск-Падляшскі – Бельскі дом культуры**

**Адкрыццё Фестывалю**
**Конкурсная частка**
**Канцэрт зорак:**
- Таццяна Беланогая
- Сяргей Башлыкевіч
- Зміцер Вайцюшкевіч & W-Z Orkiestra

**7 лістапада 2015 (субота)**
**17.00 Бельск-Падляшскі – Бельскі дом культуры**

**Канцэрт лаўрэатаў конкурсу**
**Канцэрт зорак:**
- Трыа з Аляксандрам Ясінскім
- ILO&friends
- Яўген Барышнікаў
- :B:N: акустычна
- NAVI

**8 лістапада 2015 (нядзеля)**
**15.00 Беласток – Падляшская опера і філармонія – Еўрапейскі цэнтр мастацтва**

**Канцэрт лаўрэата Узнагароды „Grand Prix”**
**Канцэрт зорак:**
- BosaeSonca
- NAVI

**Праграма суправаджальных мерапрыемстваў**

**5 лістапада 2015 (чацвер)**
**17.00 Гайнаўка – Музей і асяродак беларускай культуры**
**Канцэрт:**
- Яўген Барышнікаў
- ILO&friends

**17.00 Орля – Гмінная публічная бібліятэка**
**Канцэрт:**
- Сяргей Башлыкевіч
- Зміцер Вайцюшкевіч

**17.00 Нарва – Гмінная публічная бібліятэка**
**Канцэрт:**
- NAVI

**17.00 Нараўка – Галерэя імя Тамары Саланевіч**
**Канцэрт:**
- Таццяна Беланогая

**9 лістапада 2015 (панядзелак)**
**12.00 Шчыты-Дзенцялова – Цэнтр адукацыі і прамоцы беларускай культуры**
**Канцэрт:**
- Яўген Барышнікаў

**На ўсе канцэрты УВАХОД ВОЛЬНЫ.**
**Чарговасць выступаў можа змяніцца.**

## Пашыем нашу будучыню



29 кастрычніка гэтага года ў святліцы ў Нараўцы Гайнаўскага павета падвялі вынікі выканання праекта пад загалоўкам „Пашыем нашу будучыню”. Пятнаццаць дзяўчат і жанчын прыходзілі на занятки ў святліцу ад 1 чэрвеня г. г. Да ўдзелу ў праекце заахвоціла іх Нэля Харкевіч, загадчыца святліцы.

Самымі актыўнымі ўдзельніцамі праекта былі Люцына Зданоўская, Галіна Бірыцкая, Малгажата Краўчык, Ірына Васько, Анна Харкевіч, Барбара Стоцкая, Эва Калэцкая, Зося Янцэвіч, Юліта Красоўская, Галена Апольская, Вольга Савіцкая, Таіса Драўноўская і Ніна Нічыпарук. Найбольш жанчын было з Нараўкі, Плянты, Новага Ляўкова, Елянкі, Міклашэва і са Свінароя.

На адмысловай выстаўцы ў той вечар, 29 кастрычніка, агледзець можна было, між іншым, прыгожыя сурвэткі, сурвэты, абрусы, аздобленыя фіранкі. Быў таксама салодкі пачастунак, кава і гарбата — для ўсіх, хто ў той вечар прыйшоў у святліцу.

Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА

# Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. сталіца на Тыгры = 1 _ 2 _ 3 _ 27 _ 15 _ 13 _;
2. снежная бура ў стэпе = 7 _ 22 _ 8 _ 9 _ 14 _;
3. паўсядзённае жыццё = 11 _ 6 _ 10 _;
4. адзінка вымярэння або мэтанакіраванае дзеянне = 16 _ 12 _ 19 _ 20 _;
5. рыбалоўная снасць канічнай формы (*Трапіў у ... — ні ўзад, ні ўперад*) = 23 _ 24 _ 25 _ 26 _ 21 _;
6. рытуальная забарона = 5 _ 4 _ 18 _ 17 _.

(ш)

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| | | | 7 | 8 | 9 | 10 |
| 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 |
| | | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 |
| | 23 | 24 | | 25 | 26 | 27 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 42 нумара**

Невад, суботнік, Шырма, Задар, маргарын, спеў, сідр, Вінклер, Ікар, Прага, пасаг, дэпо, Гарынь.

Рашэнне: **За добрым гаспадаром і свінка гаспадынька.**

Кніжную ўзнагароду высылаем **Лявону Федаруку** ў Рыбал.

# 08.11 — 14.11

**(22.03. — 20.04.)** Моцны дух і фізічная актыўнасць.У пачуццях давярай інтуіцыі. У лістападзе можаш пахудзець. 11.11. рушыць лавіна падзей у прафесіі, будуць прыбытковыя прапановы, заказы. Але 8-12.11. непаразуменні на працы з-за зайздрасці; не спрачайся. 9-13.11. акажы партнёру паблажлівасць. Знаёмства наладжанае ў лістападзе можа мець вялікі пазітыўны ўплыў на ваша жыццё.

**(21.04. — 21.05.)** 8- 9.11. магчымая спрэчка або непаразуменне з каханай асобай разбурыць тваё пачуццё бяспекі. 9-13.11. кінешся на дапамогу іншым, зможаш разлічваць на ўзаемнасць. 11-15.11. вырашай важнае, абдумай стратэгію дзеянняў, і пачынай новы праект. Папраў лады з сябрам або далёкімі сваякамі 11-15.11. Разумна распараджайся часам.

**(22.05. — 22.06.)** 8-12.11. усё пойдзе прыпяваючы. Справішся ў інтарэсах, ад тваіх рашэнняў многа будзе залежаць. 11-15.11. прачнецца ў табе душа адкрывальніка і наватара. Знойдзеш вырашэнне, якое дагэтуль не прыходзіла ў галаву. Хадзі, практыкуйся. 7-9.11, 11-15.11. хутка і лёгка здзейсніш свае планы. Добра справішся з хатнім бюджэтам.

**(23.06. — 23.07.)** Нагоды для адраджэння і пачатку ўсяго нанова, асабліва ў любоўным жыцці з 11.11. Будзеш поўны энергіі і новых задум. Добры час на рамантычныя сустрэчы. Цудоўна ў сямейных кантактах. Незалежна ад розных пертурбацый, ненайгоршая кандыцыя. Цяпер можаш кінуць кепскія звычкі, добра пахудзець. На працы натужліва, але прыемна.

**(24.07. — 23.08.)** Добра ў першай палове лістапада; дбай аб рэгулярны адпачынак. Сядзь на новую дыету. Саўеш з поспехам цёплае гняздэчка. Мілая атмасфера дома. Атрымаеш прапанову выезду — за мяжу або ў нейкае ціхае месца — едзь 11-15.11. — дасведчыш здарэнняў важных для твайго жыцця. 8.11. паладзіш адносіны. 9-13.11. будзеш аптымістычны, языкасты, лёгка дагаворышся. На працы будзеш цярплівы і трывалы. Нават стрэс не адбярэ табе матывацыі.

**(24.08. — 23.09.)** Будуць табою захапляцца. Сам выходзь з ініцыятывай. Не трактуй партнёра як дзіцяці, бо сапраўды ніколі не дарасце. 11-15.11. вернешся да выдатнай формы, задбаеш аб цела і палюбіш рух, а інтэлект будзе працаваць на ўсю катушку. А твой козыр — працавітасць; час ключавы для тваіх інтарэсаў. Справішся з усім, што ляжа на твае плечы, але не мяшайся ў чужое. Ды ненайлепш са здароўем і сілай; не ідзі цяпер на медычныя працэдуры.

**(24.09. — 23.10.)** Паверыш у каханне! Зоркі сашлюць табе братнюю душу, якая будзе мець усё што важнае для твайго жыцця. А ў пары чакае цябе вельмі добры ўвесь месяц — гарманічны і поўны шчасця. Будзеш добра выглядаць і цешыцца добрым настроем. 11-15.11. спадзявайся поспеху, прымі новыя выклікі, ідучыя ў пары з тваёй амбіцыяй. Ад 12.11. мноства энергіі і творчай інавацыйнасці. Асаблівыя нагоды ўрэгулявання тваіх спраў — 9-15.11., нічога не прапусці!

**(24.10. — 22.11.)** 7- 8.11. рашучасць, уплыў на іншых і на розныя сітуацыі. 8-12.11. зможаш уніклів ацаніць усё, што адбываецца вакол, пры нагодзе трапна рашаючы справы. У пачуццях важны момант на супольныя вырашэнні. Новыя кантакты, абмен вопытам, цікавыя размовы. А ад 12.11. будзеш падатлівы на стрэс. У прафесіі выходзь з ініцыятывай, дбай аб дэталі. Рассылай CV.

**(23.11. — 22.12.)** 9-13.11. знакаміты час на амбітныя дзеянні, шчасце, рэалізацыю смелых планаў. 11-15.11. аформіш кожную справу, пераканаеш іншых, міла на працы. 7-9.11. загаспадаруй усё што заробіш; не вер у абяцанні большых грошай. Не натужвайся фізічна, дбай аб калені, бёдры і ныркі.

**(23.12. — 20.01.)** 11-15.11. новы этап у пачуццёвым жыцці. Калі ты адзін, разглядайся — каханне бліжэй чым думаеш; час адпаведны на дэкларацыі і абавязацельствы. Сустракайся з людзьмі. 9-15.11. арганізуй сустрэчы. На працы прымай новыя выклікі, не бойся канкурэнцыі.

**(21.01. — 19.02.)** Давярай у пачуццях. Калі ты без пары, маеш шанц знайсці сваю палавінку, а калі ты даўно ў пары, чакае вас вельмі цікавы месяц — перажывыце штосьці, што вас яшчэ больш з’яднае. Але ў другой дэкадзе можаш увайсці ў канфлікт з кімсьці з сяброў. Цяжка будзе запланаваць хатні бюджэт; адмоўся ад шаленстваў у крамах (у снежні будзеш мець неспадзяваныя выдаткі)!

**(20.02. — 21.03.)** Сіла, жыццярадаснасць, здароўе. Добра ачысціш свой арганізм. 7-8.11. пашырыцца кола знаёмых. Да12.11. будзе тваіх аматараў аж занадта. Уцякай ад апантаных і засяроджаных на сабе. Лістапад вельмі важны для тваёй сям’і — штосьці канчаецца, штосьці пачнецца.

Агата АРЛЯНСКАЯ

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Мірослава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” - kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” - kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00} – 18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

# У палескай глыбінцы (21)

У Перабродах я жыўцом вярнулася ў часы свайго дзяцінства. Я не спадзявалася, што дзесьці ў свеце захаваўся яшчэ такі кавалак свету, які жыва напамінаў кадры з мінулага Падляшша і адначасова рэальна і звычайна існаваў у канкрэтным месцы і сучасным часе. Здзівіла мяне драўляная забудова і вялікая колькасць людзей. У кожнай сям'і былі тры, часам чатыры пакаленні: дзеці, бацькі, дзяды і прабабкі — як вядома — усе жанчыны, і тыя гарадскія, і тыя вясковыя, жывуць найдаўжэй. Усюды хадзілі гусі, індыкі, козы, куры, цацаркі. Час ад часу па шырокай пясчанай вуліцы імчала фурманка. Наваколле школы, дзе якраз адпусцілі з урокаў дзяцей, напамінала крыклівы, вясёлы мурашнік, ці як сказалі б у нас: *скварэчнік*. Сапраўды, падляшскія назвы і словы поўнасцю прыставалі да мясцовых вобразаў і эмоцый. Хоць больш за моўнае падабенства ўражваў тут генетычны краявід. Мясцовыя людзі з выгляду напаміналі маіх сваякоў і суседзяў, а не жыхароў іншай краіны. Магчыма тут, на палескай Дуброўшчыне, ля самых вялікіх, дзікіх балот Еўропы, знаходзілася міфічная прабацькаўшчына. Ці не адсюль прывандравалі нашы продкі на Падляшша?

— Госцю для вас прывёз! — аб'явіў весела Юры.

— Добра, — прывіталі нас Іван і Наталля, маладое сужонства з дачушкай Сашай на руках.

Іван, унук спявачкі Ганны Чмунэвіч, меў на нагах скураныя паляўнічыя боты, якія смела маглі б пазмагацца за марку рэгіянальнага прадукту. Менавіта такімі ботамі ў міжваенны перыяд славіўся недалёкі Давыд-Гарадок. Абутак часта скарыстоўвалі мясцовыя купцы ў якасці хабару для палітыкаў-паляўнічых, каб такім чынам дабіцца прывілеяў у інтарэсах. Пра гэта пісаў славуты рэпартажыст Юзаф Мацкевіч, жыва ўражаны першабытнасцю і вынаходлівасцю Палесся. Іван, аднак, не рабіў ніякай паказухі са свайго гістарычнага абутку. Боты падыходзілі да падраных джынсаў і несвядома складалі мадэрны маладзёвы стыль, які прамаўляў як жывы працяг палескай вынаходлівасці. Аднак ніхто тут сабой не захапляўся, не прыкідваўся іншым. Нават мой выпадковы апякун і гід Юры *разгаварыўсо* па-перабродску.

* * *

Што можна сказаць пра памерлую бабулю? Усіх унукаў і праўнучку на руках вынасіла, песні спявала. Такая жывая, непаседа была. Да работы рукі гарэлі, заўсёды штосьць рабіць хацела. А мы гэтых яе песень ужо не ўспрымалі, — прызнаецца Іван. — Яны былі незразумелымі для маладых.

Арыгінальны партрэт спяваючай Ганны Чмунэвіч на фоне лесу аздабляе вокладку кампакт-дыска „Polesie — pieśni i ludzie". Жанчына ў квяцістай хустцы напамінае старую індзейку, так сказаць, свойскай гадоўлі. На яе твары адбіўся жыццёвы досвед і сувязь са светам прыроды, дзе старасць з'яўляецца непрыпудранай старасцю з маршчынамі, сівымі валасамі, спрацаванымі рукамі.




Па апошні дзень жыцця баба Ганна працавала нараўне з апошнімі членамі сям'і. У жыцці не пашанцавала ёй з замужжам. Да яе ўзялі прымака. Пажылі разам паўтара года, нажылі дачку. Пасля мужа забралі ў войска. Вярнуўся адменены. Не цікавіла яго сям'я, рукі да работы не прыставалі. Таму прагналі яго з хаты.

Нягледзячы на горкі досвед, Ганна не згубіла прыроднага пачуцця гумару. Яе называлі душой кампаніі. Баба Ганна ўмела ўсіх рассмяшыць, пацешыць. Першая падрывалася да танца, усім была гатова падзяліцца, падвучыць. Яна таксама не шкадавала крытычных каментарыяў у бок маладога пакалення. На дыску чытаем яе словы: *Мае дзеці і ўнукі не спяваюць гэтых старых песень. Чаму? Бо не ўмеюць. Дачка хоча, нярaз спрабавала спяваць — не атрымліваецца. Каб так запявала, паявла песню — няма гэтага, бо цяпер няма ўжо такога голасу. Маладыя нам зайздросцяць. Унукам і праўнукам падабаецца, як я спяваю і танчу, але яны так ужо не ўмеюць. Не атрымліваецца. У іх няма ўжо такога голасу, няма нічога...*

Іван і Наталля смяюцца на гэтыя словы:

— Баба ведала, што гаварыла, — кажа Іван. — Я сам, хоць забі, не дам рады так заспяваць, як калісь спявалі.

— Гэта праўда, — падтаквае жонка, сімпатычная Наталля.

Маладыя Чмунэвічы ўвіхаліся пры рамонце драўлянага дома. Яны падарылі кампакт-дыск з перабродскімі песнямі свайму аднавяскоўцу Юры Лукашэвічу. Мой выпадковы гід і апякун быў для іх надзвычай важнай асобай, сваім чалавекам, які адчуваў патрэбу дапамагаць сваім людзям. Гэты племянны піяр я добра ведала з падляшска-беларускага панадворка, які разам з адыходам вёсак перасяліўся ў нашы *гайнаўкі і беластокі*.

Гаспадары запрашалі нас у хату на пачастунак, аднак Юры атрымаў званок ад сваякоў наступнай спявачкі. Яна адклала ўсе свае планы і чакала візіту.

— Не можам пакінуць у чаканні цётку, — заявіў Юры, — мусова ехаць, а то яшчэ загневаецца...

(працяг будзе)

**Фота і тэкст Ганны КАНДРАЦЮК**






# XVIII Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы

**Рэдакцыя „Нівы" і Беларускі саюз Рэспублікі Польшча аб'яўляюць XVIII Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы. У конкурсе будуць разглядацца працы грамадзян Польшчы на беларускай мове.**

**ПРЫНЦЫПЫ ЎДЗЕЛЬНІЦТВА**

**1.** Конкурс праводзіцца ў дзвюх узроставых групах:
— I група: дзеці і моладзь пачатковых школ і гімназій,
— II група: астатнія ўдзельнікі (выключна аўтары, якія не з'яўляюцца членамі літаратурных творчых саюзаў).

**2.** У рамках груп конкурс праводзіцца ў дзвюх катэгорыях: паэзіі і прозы.

**3.** Конкурсныя працы, набраныя на камп'ютары або разборлівы рукапіс у двух экземплярах (паэтычныя творы — 3-5 вершаў, іншыя літаратурныя формы — аб'ёмам да 22 старонак стандартнага машынапісу) трэба падпісаць крыптанімам, пазначыць нумарам узроставай групы і паслаць на адрас: Redakcja „Niwy", ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok 2, skr. poczt. 84 з прыпіскай на канверце: XVIII Ogólnopolski Konkurs Poezji i Prozy Białoruskiej.

**4.** Прозвішча, імя і дакладны адрас аўтара дасланых конкурсных прац трэба памясціць у асобным заклееным канверце, падпісаным звонку такім нумарам групы і крыптанімам, як і конкурсныя працы.

**5.** На конкурс трэба дасылаць творы, якія дагэтуль нідзе не друкаваліся і не ўзнагароджваліся на іншых конкурсах.

**6.** Арганізатары не вяртаюць дасланых твораў.

**ТЭРМІНЫ**

**1.** Тэрмін дасылання да 16 лістапада 2015 г. (вырашае дата паштовага штампа).

**2.** Вынікі конкурсу будуць аб'яўлены ў снежні 2015 г.

**3.** Уручэнне ўзнагарод адбудзецца на адмысловай сустрэчы. Аб тэрміне мерапрыемства лаўрэаты і астатнія ўдзельнікі конкурсу будуць паінфармаваны і запрошаны прыняць у ім удзел.

Конкурс праводзіцца дзякуючы фінансавай падтрымцы Міністра адміністрацыі і лічбавізацыі.

ISSN 0546-1960